Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 32 (4883) 12 жніўня 2016 г.



# Прадвесце свята

**Час, а значыць і лічбы, з дапамогай якіх мы яго адчуваем, заўсёды мелі сакральны, містычны сэнс. У злучэнні з мастацтвам гэта дае выбуховую сумесь, інтрыгуе і зачароўвае. Летам, у перыяд «арт-зацішша» і сезона адпачынкаў, Гомельшчына не спіць — радуе неардынарнымі культурнымі падзеямі. І здзіўляе!**





Фота БелТА.

*Культурная акцыя — выстаўка адной карціны «Маё Палессе» Уладзіміра Пракапцова — разнастаіла мастацкае жыццё Гомельшчыны.*

На высокай, нібы з казкі, вежы Гомельскага палацава-паркавага ансамбля адбылася выстаўка адной карціны — «Маё Палессе» генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Пракапцова. Мастак прадставіў яе асабіста, а доўжылася экспазіцыя 8 гадзін 8 хвілін 8 секунд, пасля чаго работа была перададзена ў дар палацу. Дарэчы, падзея адбылася яшчэ і 8 жніўня — у дзень нараджэння творцы.

Гармонію і прымірэнне, раўнавагу і сілу нясе лік восем — гэтак жа, як і карціна. Твор выкананы ў стылі рэалізму: разгалістае дрэва на фоне сіняга неба, што пераклікаецца з паверхняй вадаёма, а побач — адкрытае сонцу зялёнае поле. Колеры незвычайна сакавітыя, ярчэйшыя, чым у прыродзе, так што рэалізм выглядае значна праломленым праз асабістае бачанне аўтара, але гэта зрабіла карціну толькі яшчэ больш прывабнай.

Палессе — родны дом мастака. Таму не дзіўна, што палатно атрымалася такім шчырым, пяшчотным, пазітыўным. Па задумцы аўтара, увесь яго праект — сімвал бясконцасці.

А яшчэ сваю работу творца прысвячае Году культуры ў Беларусі, які для Гомельшчыны набывае асаблівы сэнс. Хутка гэтая гасцінная зямля будзе сустракаць Дзень беларускага пісьменства. Нацыянальнае свята — значная падзея. Апяванне духоўнасці і беларускага друкаванага слова, якое пройдзе ў Рагачове, ператворыцца ў цэлы парад цікавых культурных мерапрыемстваў. Адкрыццё выстаўкі пра творчасць Андрэя Макаёнка, спектакль «Пясняр», тэлемост з гарадамі-пабрацімамі сталіцы літаратурнага свята, «Славянскія літаратурныя Дажынкі — 2016», шматлікія канцэрты, закладка алеі ў гонар 10-годдзя Саюза пісьменнікаў Беларусі, святочны салют… І гэта далёка не поўны спіс. У горадзе ва ўсю ідзе добраўпарадкаванне, будаўнічыя і рамонтныя работы. Вось і яшчэ адзін куток нашай радзімы набывае новае аблічча, напаўняецца свежымі фарбамі, непаўторнымі эмоцыямі.

## Пункцірам

✔ Статус гісторыка-культурнай каштоўнасці нададзены 93 матэрыяльным аб'ектам і 35 нематэрыяльным праявам творчасці чалавека, 121 аб'ект пазбаўлены гэтага статусу. Згодна з пастановай Савета Міністраў Беларусі, статус гісторыка-культурнай каштоўнасці нададзены Дому Максіма Танка ў Мядзельскім раёне, калекцыі аўтографаў Янкі Купалы, царквам, касцёлам і інш. Сярод нематэрыяльных праяў творчасці чалавека гэты статус атрымалі: традыцыя памінання продкаў (Ганцавіцкі раён), танец «Спораўская полька» (Бярозаўскі раён), традыцыя ажурнага ткацтва (Гарадоцкі раён), традыцыя вырабу валёнак (Мёрскі раён), іншыя абрады ды традыцыі.

✔ Паводле старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, у Дзень беларускага пісьменства, які пройдзе на пачатку верасня ў Рагачове, галоўны акцэнт будзе зроблены на сустрэчах пісьменнікаў з чытачамі, на папулярызацыі творчасці аўтараў з Рагачова і ўвогуле Гомельшчыны.

✔ Дні культуры Беларусі пройдуць сёлета ў Індыі, паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Індыі ў Беларусі Панкадж Саксена падчас прэс-канферэнцыі, прысвечанай нацыянальнаму святу гэтай краіны. Дыпламат адзначыў важнасць беларуска-індыйскіх культурных сувязей, развіццю якіх у многім садзейнічае абмен Днямі культуры. На думку пасла, беларусы выказваюць вялікі інтарэс да індыйскай культуры. Праводзіцца шматлікія індыйскія мерапрыемствы ў Мінску і іншых беларускіх гарадах.

✔ З 1 па 13 жніўня ў Францыі ў дэпартаменце Прыморская Шаранта праходзіць 27-ы фестываль маладзёжных сімфанічных аркестраў «Еўрааркестрыя». У ім упершыню бяруць удзел беларусы — студэнцкі сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Андрэя Іванова. Сёлета фэст сабраў 300 музыкантаў з 14 краін. Згодна з правіламі, запрошаныя калектывы прадставяць французскай публіцы творы нацыянальных кампазітараў.

✔ Самыя малыдыя артысты Белдзяржцырка Вераніка Рыбчонак і Максім Вінаградаў вярнуліся з Рыгі з залатой узнагародай Дзясятага міжнароднага цыркавога фестывалю для дзяцей і юнацтва «Свет поўны цудаў — 2016». На суд міжнароднага журы і гледачоў яны прадставілі нумар «Паветраныя гімнасты на палотнах». Беларусы канкуравалі з артыстамі з Расіі, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Італіі.

✔ У Год культуры Палескі драматычны тэатр адкрые новы сезон спектаклем паводле п'есы Янкі Купалы «Раскіданае гняздо». Гледачы ўбачаць драму ў дзвюх дзеях на беларускай мове. Аўтарскае бачанне класічнага твора пінчанам прадставіць рэжысёр Павел Марыніч. У пастаноўцы будуць задзейнічаны вопытныя і малыя артысты. Чарговы, 11-ы па ліку, тэатральны сезон стартуе ў Пінску 14 жніўня.

✔ Гастролі Чарнігаўскага абласнога акадэмічнага ўкраінскага музычна-драматычнага тэатра імя Тараса Шаўчэнкі пройдуць у Гомельскім аблдрамтэатры да адкрыцця новага, 78-га, сезона. Паклоннікам Мельпамены 9 і 10 верасня будуць паказаны спектаклі «Ноч перад Калядамі» Мікалая Гогаля і «Камедыя памылак» Уільяма Шэкспіра, пастаўленыя заслужаным артыстам Украіны Андрэем Бакіравым.

✔ Заўтра на тэрыторыі Верхняга горада адбудзецца Свята карэйскай культуры. Мінчан і гасцей сталіцы чакае адмысловая канцэртная праграма, у тым ліку выступленне творчага калектыву карэйскай культуры «Арыранг» пры ГА «Асацыяцыя беларускіх карэйцаў», канцэрт карэйскай поп-музыкі. Можна будзе азнаёміцца з каліграфіяй, сфатаграфавацца ў традыцыйным адзенні (ханбок), набыць сувеніры з Паўднёвай Карэі і пакаштаваць карэйскія стравы.

# Сібірскія «Крывічы»

## прывязуць гісторыі пра іркуцкіх беларусаў

Далучыцца да беларускай культуры запрашае Літаратурны музей Петруся Броўкі. Хутка там адбудзецца сустрэча з прадстаўнікамі іркуцкай маладзёжнай арганізацыі «Крывічы».

Суполку заснавалі яшчэ ў 1997 годзе, і менавіта з тых часоў яе місіяй стала падтрымка цікавасці да культуры Беларусі. Прадстаўнікі аб'яднання звяртаюць увагу на беларускую культуру з дапамогай навукі (праводзяцца этнаграфічныя экспедыцыі ў месцы, дзе ў Іркуцкай вобласці жылі беларускія перасяленцы), гісторыі (прадстаўнікі суполкі рэканструююць беларускія народныя абрады), літаратуры (аб'яднанне нават мае ўласную бібліятэку «Беларускі кнігазбор» і сваё выдавецтва).

Цікавяцца «Крывічы» і беларускімі традыцыямі: на мерапрыемствах, арганізаваных у клубе, можна вывучыць беларускія народныя песні, пазнаёміцца з бытавымі і сярэднявечнымі беларускімі танцамі. Яшчэ і паспрабаваць сябе ў справе рамесніка!

У Мінск «Крывічы» прывязуць апавед пра жыццё іркуцкіх беларусаў — гісторыі пра нашых суайчыннікаў раскажуць каардынатары суполкі Алег Рудакоў і Вольга Галанава. Таксама на вечарыне ў музеі Петруся Броўкі пакажуць відэасюжэты пра фэсты, святы і выстаўкі, якія праводзяць «Крывічы», — самыя яркія прыклады актывісцкай працы. Акрамя таго, можна будзе ўбачыць вынік этнаграфічных вандровак «Крывічоў» па прыбайкальскіх вёсках, трапіць на майстар-клас па традыцыйных беларускіх танцах і паўдзельнічаць у спевах народных песень.

Арганізатары сустрэчы абяцаюць шмат цікавага, многаму тут можна будзе навучыцца. Пра гэта распавяла навуковы супрацоўнік музея Петруся Броўкі Ліна Мядзведзева:

— Суполка «Крывічы» вельмі цікавая: людзі займаюцца пошукам аўтэнтычных беларускіх традыцый, ладзяць фестывалі. Для нас такая дзейнасць можа быць цікавай хаця б тым, што беларусы, якія жывуць у Іркуцку, ужо асіміляваліся да новай радзімы. І не толькі самі, але і традыцыі. Вось «Крывічы» і раскажуць, якімі беларускія традыцыі могуць стаць за межамі нашай краіны.

Сустрэцца з сібірскімі беларусамі з суполкі «Крывічы» і ўбачыць Беларусь пад іншым вуглом можна 15 жніўня ў 17:30 у Літаратурным музеі Петруся Броўкі.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Аўтограф ды іншыя экспанаты

Янка Запруднік — аўтар 10 кніг, 11 брашур і сотняў артыкулаў па гісторыі Беларусі. Да 90-годдзя гісторыка, журналіста і знанага прадстаўніка беларускай дыяспары ў ЗША супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва падрыхтавалі выстаўку «Звераю, што сыдуцца дарогі...», размешчаную ў чытальнай зале.

Ад пачатку 2000-х гадоў Янка Запруднік рэгулярна перадае свае дакументы на захаванне ў БДАМЛіМ. Яны і склалі аснову юбілейнай экспазіцыі, якая дазваляе прасачыць жыццёвы шлях гісторыка ад навучання ў сямігодцы ў Міры да сёлетняга наведвання Беларусі.

На выстаўцы прадстаўлены дакументы з навучання, пачатку творчай і грамадскай дзейнасці Янкі Запрудніка ў лагерах для перамешчаных асоб у Германіі, а таксама ў Вялікабрытаніі. Тут будучы гісторык разам з дванаццаццю сябрамі-беларусамі працаваў у вугальных капальнях, каб зарабіць грошы на вышэйшую адукацыю і выданне маладзёжнага часопіса «Наперад!».

Важны раздзел экспазіцыі адлюстроўвае навучанне Янкі Запрудніка ў Каталіцкім універсітэце ў Лювене (Бельгія). Тут можна ўбачыць арыгінал дыпломнай працы, спіс прадметаў, якія вывучаў будучы гісторык, спіс беларускіх студэнтаў гэтай установы... Значная колькасць дакументаў прысвечана і «амерыканскаму» перыяду жыцця Янкі Запрудніка: навучанню ў аспірантуры ў Гарадскім універсітэце Нью-Ёрка, абароне дысертацыі ў 1969 годзе. Можна адзначыць адмысловую віншавальную паштоўку, падпісаную вядомымі дзеячамі беларускай эміграцыі: Наталляй Арсенневай, Вітаўтам Тумашам, Янкам Садоўскім, Раісай Жук-Грышкевіч і іншымі.

Своеасаблівае «вяртанне» Янкі Запрудніка ў Беларусь у пачатку 90-х гадоў адлюстравана фотаздымкамі з беларускімі творцамі: Генадзем Бураўкіным, Нілам Гілевічам, Вольгай Іпатавай, а таксама лістамі і запрашэннямі з Беларусі, інтэрв'ю ў перыёдыцы, публікацыямі вершаў у паэтычных зборніках. Асаблівую важнасць для супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва мае адрасаваны ім аўтограф Янкі Запрудніка, пакінуты падчас наведвання ўстановы ў чэрвені 2016 года.

**Янка НАТАВЕЦ**

*Будзем памятаць*

# Яе светлыя гарызонты

**Пайшла з жыцця пляменніца Алеся Адамовіча, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Галіна Адамовіч.**



Разумная, дасціпная, энергічная. Заўсёды клапатлівая, чалавечная і неraўнадушная, Галіна Яўгенаўна ўмела трымаць увагу студэнтаў, зацікавіць іх прадметам, а сярод калег-выкладчыкаў карысталася нязменнай павагай. Не верыцца, але лёс распарадзіўся так, што пра гэтую таленавітую і адважную жанчыну сёння даводзіцца пісаць, выкарыстоўваючы дзеясловы прошлага часу, бо яе цёплая і прыветная ўсмешка таксама засталася ў мінулым…

Прафесар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Галіна Адамовіч шмат гадоў прысвяціла вывучэнню беларускай літаратуры ў параўнальным аспекце, даследавала тыя ніткі, якімі творы нашых аўтараў звязаны з сусветнай класікай, а значыць — наша літаратура ўплецена ў сусветны літаратурны працэс. Яе аўтарству належаць сапраўды зорныя манаграфіі, прысвечаныя метадалогіі літаратуразнаўства, — «Літаратура-кантэкст-тэзаўрус» (2003) і «Асновы кампаратывістыкі» (2009), а таксама кніга для настаўнікаў «З крыніц сусветнай літаратуры» (1998), дапаможнікі для вышэйшых навучальных устаноў «Літаратура і культура: праблемы аналізу і сінтэзу» (1993), «Літаратурная класіка ў параўнальным вывучэнні» (2008).

Галіна Яўгенаўна лічыла, што наша літаратура павінна вывучацца ў кантэксце сусветнай і стала адным з аўтараў вучэбнай праграмы, якая грунтавалася менавіта на гэтым падыходзе. З віртуознай лёгкасцю яна знаходзіла агульныя рысы ў творчасці Іагана Гётэ, Роберта Бёрнса і Якуба Коласа, Анры Барбюса і Максіма Гарэцкага, Даніэля Дэфо і Янкі Маўра… Гэты спіс можна доўжыць. Але яшчэ больш уражвае тое, з якой тонкасцю, нават элегантнасцю Галіна Адамовіч здолела прааналізаваць сувязі, паказаць творы айчыннай класікі ў сусветным кантэксце. Кампаратывісты мяне зразумеюць: за гэтымі знаходкамі стаяць доўгія гадзіны пільных даследаванняў.

Думаецца, справа шаноўнай Галіны Яўгенаўны будзе прадоўжана. Яна выгадавала цэлую кагорту вучняў і паслядоўнікаў, якія працягнуць шукаць паралелі паміж творчасцю беларускіх і замежных класікаў, удасканальваць тэарэтычныя і практычныя метадалагічныя асновы кампаратывістыкі.

Вы ж спачывайце з мірам, Галіна Яўгенаўна.

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа глыбока смуткуе з прычыны смерці доктара філалагічных навук прафесара кафедры беларускай літаратуры і культуры БДПУ імя Максіма Танка Галіны Яўгенаўны Адамовіч. Галіна Яўгенаўна была шчырым сябрам музея Якуба Коласа, пастаянным удзельнікам навуковай канферэнцыі «Каласавіны», яе навуковыя даследаванні заўсёды адрозніваліся багаццем і арыгінальнасцю матэрыялаў, індывідуальна-аўтарскім падыходам да праблем коласазнаўства. Выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім. Памяць пра Галіну Яўгенаўну застанецца ў нашых сэрцах.

*Праекты*

# Легендарныя мінчане на экране

Бясплатныя свабодныя паказы фільмаў, якія змогуць не толькі распавесці знакамітую біяграфію легендарных мінчан, але і раскрыць іх глыбей перад гледачамі, стартавалі ў Нацыянальным мастацкім музеі. А пачыналася ўсё так: напрыканцы чэрвеня на плошчы Свабоды адкрылася выстаўка партрэтаў легендарных мінчан з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Гаворка ішла пра герояў сучаснасці, якія зрабілі вялікі ўнёсак у культуру краіны. Выстаўка выклікала цікавасць жыхароў. У сацыяльных сетках пад аб'явай аб адкрыцці праекта карыстальнікі пакідалі шмат каментарыяў пра актуальнасць і вартасць экспазіцыі. У выніку арганізатары вырашылі працягнуць праект у новым фармаце.

У межах першых кінасустрэч гледачы ўбачылі некалькі кінастужак, прысвечаных таленавітым людзям, якіх па праве можна лічыць сімваламі горада. Сярод іх спявачка лідар музычнага калектыву «Сярэбранае вяселле» Святлана Залеская-Бень, усходазнаўца Іосіф Гашкевіч, кампазітар заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Андрэй Мдзівані, вучоны Сяргей Жданок, самабытная мастачка Алена Кіш і салістка Вялікага тэатра оперы і балета Аксана Волкава.

Людзі, якія прыйшлі на свабодны кінапаказ, не адрываліся ад экрана ні на хвіліну. Нават не было адчування, што глядзіш фільм! Здавалася, у руках трымаеш тоўстую кнігу, дзе за кожнай новай старонкай адкрываюцца новыя рысы герояў, невядомыя факты з іх жыцця. Напрыклад, фільм, прысвечаны Аксане Волкавай, які завяршаў кінапаказ, глыбока зачапіў расповедам пра жаночую ўпартасць і слабасць адначасова. Адкрытасць і шчырасць артысткі кранула, дала гледачу імпульс запомніць яе гісторыю надоўга.

На думку арганізатара праекта кіраўніка агенцтва «Культпрасвет» Уладзіміра Бабко (інфармацыя з сайта *kultprosvet.by*), свабодныя паказы, як і ў цэлым праект «Свабодны музей: гарадскія легенды», дапамогуць гараджанам даведацца не толькі пра людзей на слыху, але і ўспомніць забытыя імёны суайчыннікаў, натхніцца гісторыямі таленавітых людзей, расказаць пра іх нашчадкам. Магчыма, некаторыя расповеды стануць матывацыяй для гледачоў.

Акрамя свабодных кінапаказаў, у межах праекта «Свабодны музей» арганізатарамі будуць падрыхтаваны і адукацыйныя праграмы, звязаныя з тэматыкай праекта.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Не праміне*

# Паміж Шапэнам і Міцкевічам

## Віртуозная польская музыка прагучыць на канцэрце «Пад зоркай Шапэна» напярэдадні новага сезона ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі

На Малой сцэне выступяць беларускія музыканты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Юлія Архангельская і Аляксандр Палякоў, між іншым, вядомы сямейны дуэт.

Кожны з іх прадставіць сваё бачанне і інтэрпрэтацыю музыкі Шапэна. Нароўні з папулярнымі п'есамі майстра выканаўцы прадэманструюць гледачам сачыненні іншых польскіх кампазітараў, выхаваных на яго традыцыях, — К. Шыманоўскага і І. Падзярэўскага.

У першым аддзяленні Юлія Архангельская выканае «Варыяцыі на польскую народную тэму» ужо згаданага К. Шыманоўскага, навеяныя кампазітару творчасцю польскага генія і фальклорам татарскіх народаў. Прагучаць таксама «Экспромт-фантазія» і «Вальс», на гэты раз Шапэна. Завершыць аддзяленне «Балада № 1». Дарэчы, Шапэн ствараў балады пад уплывам паэзіі Адама Міцкевіча, у якой той апяваў у тым ліку прыгажосць беларускага краю.

Аляксандр Палякоў (ужо ў другім аддзяленні) раскажа пра прыроду меладычнасці з дапамогай п'ес-мініяцюр І. Падзярэўскага «Сарабанда» і «Фантастычны кракавяк». Далей прагучаць Дванаццаць эцюдаў з сачынення 10. Калі вы не ведаеце, то гэта — адна з вяршынь віртуознасці ў кампазітарскім і выканальніцкім мастацтве. Мініяцюры настолькі імпэтныя, дынамічныя, што патрабуюць неверагоднага майстэрства і самавалодання. Аляксандр Палякоў паспеў пакарыць сваім выкананнем гэтага твора публіку Францыі, Польшчы і Кітая. А фінальным акордам вечара стане Скерца № 3 — урачыстае, драматычнае, гераічнае. Гэта варта пачуць!

**Марыя ВОЙЦІК**

*Вернісаж*

# Натхнёны жаноцкасцю

## Выстаўка Андрыяна Жудро «І прыгажосць, і натхненне» адкрылася ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі

Экспазіцыя атрымалася рамантычнай, пяшчотнай і захапляльнай. Жывапіс Андрыяна Жудро заўсёды пазнавальны дзякуючы сваёй яркасці, цеплыні, насычанасці фарбаў. Супрацоўнікі музея запрашаюць наведвальнікаў акунуцца ў казачны свет жаночай прыгажосці, адчуць яго душой. Але гэта не ўсё! Акрамя партрэтаў, прадстаўлены і вячэрнія краявіды Прагі, і архітэктурныя замалёўкі Ізраіля, і нават Сцяна Плачу. Гледзячы на палотны, можна лёгка вярнуцца ў гарэзлівасць дзяцінства, паразважаць над вечным пытаннем аб сэнсе жыцця, паваражыць на кававай гушчы, адчуць смак Усходу, пачуць лёгкую мелодыю, сыграную на клавесіне. Дзякуючы аўтару, можна таксама пазнаёміцца з унікальнай культурай еменскіх вясельных убораў.

Андрыян Жудро нарадзіўся ў Баранавічах, у сям'і мастака, таму маляваннем захапіўся вельмі рана. У ВНУ вывучаў і жывапіс, і дызайн, што вельмі прыдалося ў будучыні. Нейкі час працаваў рэстаўратарам у Баранавіцкім краязнаўчым музеі. Аднак у творчых людзей не бывае звычайных шляхоў. Служба ў Хабараўску — адзін з паваротаў у лёсе мастака. У 1991 годзе ён пераязджае ў Хабараўск, дзе мае ўласную майстэрню і разнастайныя праекты. На 8 гадоў далёкаўсходні горад стаў яго творчай пляцоўкай. А ў 33 гады нашага земляка павабіў Ізраіль, дзе ён жыве і працуе сёння, аднак ніколі не забывае пра родную Беларусь.

Гэта чалавек ініцыятыўны і энергічны, удзельнік многіх міжнародных выстаў і пленэраў у розных краінах свету. Удзельнік праектаў па афармленні музеяў Ізраіля. Папярэдні раз мастак выстаўляўся на малой радзіме два гады таму ў сумесным праекце «Вобразы і ўражанні» разам з жонкай Ганнай Зарніцкай і фатографам Алікам Замосціным. У Беларусі працы Андрыяна Жудро знаходзяцца таксама ў запасніках Нацыянальнага мастацкага і Нацыянальнага гістарычнага музеяў, Акадэміі мастацтваў, Магілёўскага мастацкага музея імя П. В. Масленікава. Пазнаёміцца з чароўным светам творцы жыхары Баранавіч змогуць да сярэдзіны верасня.

**Наталля ЯРОШ**



*Работа Андрыяна Жудро «Нявеста».*

*Дайджэст*

• Аўстралійскія спецыялісты з дапамогай рэнтгенаўскіх прамянёў выявілі схаваны партрэт, напісаны французскім імпрэсіяністам Эдгарам Дэга. Карціна чакала свайго часу пад палатном «Жанчына ў чорным капоце», напісаным у 1870-х гадах. Пад верхнім пластом фарбы быў схаваны партрэт дзяўчыны з залаціста-каштанавымі валасамі. Мастацтвазнаўцы лічаць, што намаляваная вельмі падобная да Эмы Дабіны, якая ў юнацтве пазіравала для некалькіх карцін мастака. «Схаваныя палотны — ранняя кампазіцыі, па-над якімі былі напісаныя пазнейшыя работы — дапамагаюць глыбей вывучыць творы мастацтва і іх стваральнікаў», — гаворыцца ў паведамленні даследчыкаў, апублікаваным у выданні *Scientific Reports*. Цікава, што папярэднія спробы разгледзець схаваны твор Дэга былі няўдалымі.

• Здымкі новай работы Андрэя Курэйчыка «*PARTYzan* фільм» праходзяць у Мінску. Гэта маладзёжная камедыя пра маладых авантурыстаў, якія мараць хутка і лёгка разбагацець. Галоўныя героі фільма — прагматыст і бізнесмен, якія вырашаюць прадставіцца маскоўскай кінагрупе дасведчанымі кінапрадзюсарамі і за добрую плату зняць некалькі ваенных сцэн. Акцёраў на галоўныя ролі шукалі некалькі месяцаў. У выніку выбралі Аляксандра Душачкіна і Аляксандра Тарасава. Назва фільма шматзначная. Найперш яе можна перакласці як «Вечарынка-фільм». Па словах Андрэя Курэйчыка, партызанскае існаванне, што было ўласціва беларусам цягам некалькіх стагоддзяў, мае і культурны кантэкст, таму для творчай групы фільма рабіць незалежнае кіно — таксама пэўная «партызаншчына». Фільм можна разглядаць не толькі як камедыю, але і як пэўны аналіз беларускай культурнай прасторы. Апроч іншага, стваральнікі іранізуюць над беларускай марай пэўнай часткі моладзі: «як зарабіць шмат, хутка і, пажадана, нічога асабліва не робячы». Бюджэт фільма яшчэ не падлічаны, але вядома, што ён перавысіць бюджэт карціны «ГараШ» у 2—2,5 разу. Прэзентацыя трэйлера запланавана на 15 лістапада 2016 года. Прэм'ерны паказ мусіць адбыцца пад Новы год.

• Амерыканскія навукоўцы даказалі, што чытанне кніг не толькі павышае інтэлектуальны ўзровень, але і падаўжае жыццё. Навуковы эксперымент доўжыўся 12 гадоў ва ўніверсітэце Еля. Даследчыкі пільна сачылі за ладам жыцця розных груп людзей, надаючы пры гэтым асаблівую ўвагу чытанню кніг. У выніку атрымалі даныя, што ў аматараў літаратуры тэрмін жыцця на два гады больш, чым у тых, хто не мае звычкі чытаць. Акрамя таго, узровень смяротнасці сярод аматараў кніг на 23% меншы.

• *Forbes* апублікаваў звесткі пра самых высокааплатных пісьменнікаў. Рэйтынг датаваны 2016 годам, аднак статыстыка сабрана за год мінулы. У лідары рэйтынга *Forbes* трапіў Джэймс Патэрсан, аўтар серыі раманаў пра інспектара Кроса, які, дзякуючы дэтэктыўнаму таленту і асабістым добрым якасцям, паспяхова разблытвае самыя загадкавыя справы. На рахунку Патэрсана 95 мільёнаў долараў. На другім месцы з адставаннем у 19,5 мільёна — Джэф Кіні, аўтар «Дзённіка слабака». Поспех кнігі натхніў пісьменніка на яе працяг, па якім былі зняты яшчэ і фільм. Джоан Роўлінг, стваральніца сагі пра Гары Потэра, па звестках *Forbes*, зарабляе 19 мільёнаў долараў за год, але па ўсіх прагнозах яе прыбыткі ў сувязі з выхадам кнігі «Гары Потэр і праклятае дзіця» значна вырастуць.

• Брытанскі скрыпач Пол Робертсан выпускае кнігу, дзе распавядае пра свае бачанні падчас знаходжання ў коме. Успаміны атрымалі назву «Падарожжа музыканта па жыцці і смерці». Пасля сардэчнага прыступу музыкант сапраўды доўгі час знаходзіўся на мяжы жыцця і смерці. За гэтыя тыдні скрыпач «пабачыў» шмат цікавага, у тым ліку пабываў у кампаніі анёлаў, якія смяяліся, але не пускалі ў рай, трапіў у сярэднявечча. Аздобіў кнігу мастак Дзірк Бут, які ўвасобіў фантастычныя карціны ў сямнаццаці ілюстрацыях. Выхад «Падарожжа…» чакаецца 1 верасня.



Леанід Дробаў.

# Закаханы ў творчасць,

## або Хто адкрываў нам беларускае мастацтва?

### ДА ЮБІЛЕЮ ЛЕАНІДА ДРОБАВА

Карпатлівыя, сенсацыйныя, займальныя і карысныя для краіны даследаванні па гісторыі беларускага мастацтва, пранікнёныя, далікатныя, сонечныя пейзажы роднай зямлі, ваенныя шляхі, поўныя гераізму і самаахвярнасці, — усё гэта пра Леаніда Міканоравіча Дробава. Шостага жніўня яму б споўнілася 90 гадоў, калі б цяжкая хвароба заўчасна не абарвала жыццё вядомага жывапісца, вучонага-мастацтвазнаўцы, прафесара, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны.

Чалавечая памяць унікальная тым, што можа вечна захоўваць пачуцці да родных людзей, важныя вобразы з наваколля, што аднойчы ўварваліся ў свядомасць, поўныя ўражанняў падзеі… Леанід Дробаў змог перадаць нам памяць пра сябе ў самых шматгранных іпастасях, бо пакінуў след, адбітак сваёй плённай працы, творчасці не толькі душэўны, але і для будучыні практычна важны.

Спадчына навуковых прац і даследаванняў Леаніда Дробава акунае ў «свет» нашага роднага мастацтва ва ўсёй яго паўнаце, яркасці, моцы. Шматтомная «Гісторыя беларускага мастацтва», створаная пад яго кіраўніцтвам з калектывам іншых таленавітых аўтараў, стала першым і адзіным грунтоўным зборам па гэтай тэме. Тэме, якую амаль ніхто да яго не ўзнімаў, а калі і ўзнімаў, то да канца не даводзіў.

Леанід Дробаў паставіў сабе мэту і дасягнуў яе. Было цяжка, здавалася, што шлях не прайсці да канца, але ён не спыняўся. У сваіх рукапісах, нарысах у газеце вучоны ўспамінаў пра тое, як падарожнічаў па гарадах Беларусі і суседніх краін, упарта і паслядоўна збіраючы інфармацыю пра нашых мастакоў, чые імёны былі забытыя ці то з-за савецкай цэнзуры, ці то з-за памылковага змяшання рускіх, польскіх, украінскіх каранёў. Ён адкрываў беларусам іх землякоў, тых, кім мы можам ганарыцца. Акрамя таго, прафесар прааналізаваў стылі ў мастацтве, якія развіваліся на тэрыторыі нашай краіны ў пачатку XIX — сярэдзіне XX стагоддзя.

Невыпадкова ў дзяцінстве мастак марыў стаць адкрывальнікам далёкіх зямель, як Хрыстафор Калумб. Гэтым Калумбам ён і стаў — толькі ў мастацтвазнаўстве. Сын настаўніка сельскай школы з ранніх гадоў адчуў, што такое ўменне змагацца. Грошай у сям'і амаль не было, часы былі няпростыя. Хлопчыку прыходзілася самому рабіць буркі з тканіны і ваты накшталт валёнак і абменьваць іх на бульбу і іншую ежу.

Прага ведаў, пастаянны вучобы, даследаванняў была такой моцнай, што Леанід Дробаў ніколі, здаецца, не спыняў працэс навучання. Вучыўся адразу ў дзвюх установах — Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце і завочна ў БДУ на факультэце журналістыкі. Дыплом журфака, дарэчы, прысвяціў выяўленчаму мастацтву на старонках газеты «Літаратура і мастацтва». Пятро Глебка, на той час дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, пазнаёміўшыся з працай маладога таленавітага мастака, запрасіў яго ў аспірантуру інстытута. Леанід адразу ж «стрэліў» кандыдацкай на няпростую, дрэнна вывучаную раней тэму — «Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя». А потым і доктарскай — пра станаўленне і развіццё рэалізму ў беларускім жывапісе таго ж перыяду. «Я зусім не збіраўся быць мастацтвазнаўцам. Але калі пазнаёміўся са станам спраў у навуцы — перамяніў свае думкі», — прызнаваўся потым Леанід Дробаў.

За больш чым трыццаць гадоў навуковай дзейнасці ён знайшоў, перагартаў, прааналізаваў і падарыў людзям малавядомыя старонкі гісторыі беларускага мастацтва, адкрыў яго вытокі, тых, хто ўсё пачынаў пасля рэвалюцыі. Зноўку адкрыў імёны ў жывапісе — Ігната Дамеля, Валенція Ваньковіча і Напалеона Орды, Івана Хруцкага і Яна Рустэма, Іосіфа Аляшкевіча, Генрыха Жукоўскага і Юзэфа Пешкі, Васіля Садоўнікава і Вікенція Дзмахоўскага… Акрамя кнігі, выдаў больш за сто навуковых прац, у тым ліку 13 манаграфій. Аб'ездзіў некалькі краін, разбіраючыся ў мностве архіўных дакументаў, схаваных ад вачэй, літаральна начаваў у аддзелах рэдкіх кніг бібліятэк і музеяў. Леанід Дробаў даказаў, што жывапісцы Беларусі былі перадавымі для свайго часу людзьмі, выступалі наватарамі нароўні з майстрамі іншых краін свету.



«Ляўкі. Купалаўскае возера».

У родным пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці Леанід Дробаў заснаваў сваю карцінную галерэю, куды перадаў больш за сто работ — лірычных пейзажаў, партрэтаў сучаснікаў, у тым ліку выбітных пісьменнікаў, такіх як Васіль Быкаў. Нядаўна ў галерэі аддалі даніну памяці чалавеку, які так шмат зрабіў для свайго роднага краю. Сабраліся сваякі, сябры, калегі, каб у добрай цёплай атмасферы паглыбіцца ва ўспаміны. Без мінулага не бывае будучыні.

Леанід Дробаў пісаў: *«Усе мастакі ў свеце аднолькавыя тым, што ў кожнага з іх ёсць асаблівая шчырасць і апантанасць»*. Ён і сам быў такім: упэўненым даследчыкам, патрыётам, працавітым і захопленым. З-пад яго пяра выходзілі карціны розных жанраў, але больш за ўсё майстар любіў пейзажы — лірычныя, як музыка, імгненныя, няўлоўныя, як фатаграфія. Ён пісаў родную Беларусь у фарбах, улоўліваючы самыя тонкія змены настрою прыроды, яе складаны і разнастайны нораў. У розных кутках краіны лавіў схаванае ад звычайных вачэй: вясёлую гульню святла на зялёнай траве, акружанай пажоўклымі, але ўсё яшчэ поўнымі цяпла і гармоніі дрэвамі, вясновыя праталіны ў бярозавым гаі, за якімі схаваліся домікі, ледзь абудзіўшыся ад зімовага сну, парывісты вецер-гарэзу, што лётае ў лісці, хвалюючы водную роўнядзь… Шчырае захапленне жывапіснымі краявідамі Беларусі дапамагала яму адлюстроўваць усё дакладна і душэўна. Леанід Дробаў ствараў таксама партрэты, тэматычныя карціны, прысвечаныя партызанскаму жыццю, нацюрморты. Асабліва ўдала выходзілі кветкі. Здаецца, проста букет у вазе, але такі сакавіты, жывы, што адчуваецца нават яго водар! Стылем, у якім мастак пісаў, быў рэалізм. Ён умеў захаваць прыроду ў дынаміцы, так, нібы глядзіш фільм са спыненым кадрам, прычым кадрам неацэнным, тым, які ўжо не паўторыцца. Максімальнае падабенства, аб'ектыўная інтэрпрэтацыя ў спалучэнні з магутным пачуццёвым імпульсам, эмацыянальнай афарбоўкай — вось што адрознівае яго карціны. Прырода на карцінах Леаніда Дробава не вельмі ўрачыстая — па-свойму велічная, рамантычная, словам, такая, як ёсць, ва ўсёй сваёй абаяльнай разнастайнасці.

Асобная частка ў біяграфіі мастака — ваенныя дарогі. Не паспеў скончыць педвучылішча, як пачалася Вялікая Айчынная вайна, і ў 16 гадоў Леанід Дробаў трапіў у вір партызанскага руху. Служыў сувязным, потым быў байцом партызанскага атрада № 752 1-й Бабруйскай партызанскай брыгады. У ліку яго ўзнагарод, якія сведчаць аб адвазе і адданасці справе, — ордэн Айчыннай вайны II ступені, 13 медалёў. Леанід Дробаў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Ён часта пісаў ваенныя ўспаміны ў дзённіку, жывыя, пранікнёныя, шчырыя. Талент публіцыста — яшчэ адна важкая якасць гэтага чалавека. Нечаканыя налёты немцаў, удзел у групе далёкай разведкі, штодзённыя начныя пераходы, засады і спецаперацыі… Калі б многае з напісанага не прыйшлося знішчыць, гэта стала б каштоўным сведчаннем таго страшнага часу. «Шляхамі жыцця. Успаміны былога партызана» — так назваў Леанід Дробаў свае мемуары пазней, вярнуўшыся да мінулага праз гады. Тут ён распавядае не толькі пра вайну, але і пра «штурм» вяршынь навукі, сваё станаўленні як мастака, першае каханне… Каб хутчэй яго думкі, так выдатна афармленыя ў словы, ператварыліся ў кнігу!

Леанід Дробаў вядомы яшчэ і як педагог, пад чыім кіраўніцтвам кандыдацкія ступені атрымалі сёння вядомыя навукоўцы, мастацтвазнаўцы, кіраўнікі музеяў, грамадскіх арганізацый, кафедраў, рэдакцый і навучальных устаноў. У іх ліку Яўген Сахута і Уладзімір Пракапцоў, Міхаіл Баразна і Яўген Шунейка, Барыс Крэпак, Наталля Шарангові і Надзея Усава… З яго дапамогай вырасла пакаленне навуковых і творчых людзей, якія працягваюць развіваць наша мастацтва ўжо ў новым стагоддзі. Леанід Дробоў даў для гэтага добры імпульс, таму можна спадзявацца, што новыя хвалі адраджэння не прымусяць сябе чакаць.

**Марыя ВОЙЦІК**



Артэфакты, знойдзеныя на месцы колішняга палаца Агінскіх у Тракаі.

*Цікава ведаць*

# З гербам «Агінец»

Многія даследчыкі спадчыны князёў Агінскіх, спасылаючыся на ўдакладненне «трокскі» да тытулаў некаторых прадстаўнікоў гэтага слыннага роду, неаднаразова выказвалі меркаванні, што ў літоўскім Тракаі або ў яго ваколіцах павінны былі існаваць маёнткі і палацы ўладароў герба «Агінец», якім у розныя часы належалі землі на Смаленшчыне, у Польшчы ды Літве. У Беларусі Агінскія мелі ўладанні ў Віцебску, Маладзечне, Ганцуе, Залессі, Бялынічах, Слоніме, Пінску…

Вывай герба традыцыйна пазначалася амаль кожная рэч у маёнтку гаспадара. Дзякуючы гэтаму, археолагі і гісторыкі, якія праводзяць раскопкі і даследаванні на рэштках былых палацаў і замкаў, даведваюцца, каму яны належалі. Такім чынам нядаўна было знойдзена месца палаца Агінскіх у Тракаі. У яго ваколіцах налічваецца не менш як 200 азёр. На паўвыспе самага глыбокага возера Гальве ў аднаўленым старажытным замку абарончага тыпу знаходзіцца гістарычны музей. Дакладна вядома, што пяць стагоддзяў таму Трокі былі рэзідэнцыяй князёў Вялікага Княства Літоўскага. Сёння гэта месца паломніцтва шматлікіх турыстаў з розных краін свету.

У старажытных Троках, дзе кожная пядзя зямлі захоўвае рэха крокаў воінаў князёў Кейстута і Вітаўта, а сцены будынкаў увабралі ў сябе галасы татарскіх і караімскіх пасяленцаў, каштоўныя напаміны пра часы сівой даўніны прысыпаны гістарычным слоем і друзам разбураных маёнткаў. Турыстычны бізнес у Літве развіваецца паскоранымі тэмпамі. У сувязі з гэтым будуюцца шматлікія аб'екты інфраструктуры. Вось і на адным з паўразбураных падмуркаў у Троках вырашылі пабудаваць рэстаран. Па літоўскіх законах у гэтым гістарычным месцы спачатку неабходна правесці археалагічныя даследаванні. І адбыўся цуд! Навукоўцы знайшлі каля дзесяці тысяч разнастайных артэфактаў, на многіх з якіх захаваліся поўнасцю ці часткова выявы герба «Агінец». Усе экспанаты былі перададзены ў музей гісторыі горада Тракая.

Нядаўна ў адным з пакояў Тракайскага астраўнога замка адкрылася выстаўка, якая, без сумнення, прыцягне ўвагу музейных работнікаў і аматараў даўніны. У экспазіцыі прадстаўлена калекцыя экспанатаў з палаца і маёнткаў, што знаходзіліся ў ваколіцах Трокаў, а таксама рэчы і іх часткі, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак. Большасць артэфактаў пазначаны гербам князёў Агінскіх.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ,**
**фота аўтара**

Пуцявіны

# Годны адказ выклікам часу

**Сёння старыя могілкі, размешчаныя па вуліцы Савецкай у Лунінцы, выклікаюць горыч і сорам з-за недагледжанасці. Рэчаіснасць падштурхоўвае да вываду, што гэта не толькі мясцовая праблема. Летась айчынныя масмедыя сведчылі пра акты вандалізму то ў наваколлях Полацка — калыскі беларускай дзяржаўнасці, то пад Шкловам, дзе былі разбураны курган і капліца…**



*Юныя даследчыкі разам са сваім кіраўніком Дзіянай Сладзінскай.*

Гэтым выклікам часу годны адказ далі юныя лунінчане, якія мінулай восенню праявілі даследчыцкі інтарэс да некропаля ў цэнтры горада. Вучні гарадской сярэдняй школы № 2 Іван Марко, Васіль Радцэвіч, Алег Карпаў, Вячаслаў Вячорка, Аляксандра Клімава і многія іншыя разам з навуковым кіраўніком настаўніцай Дзіянай Сладзінскай узяліся за новую і незвычайную для іх справу. На пытанне, ці не былі бацькі школьнікаў супраць іх частага знаходжання на старых могілках, Дзіяна Раманаўна адказала:

— Свяшчэннік іерэй Сергій Крышталь благаславіў вучняў на ўлік пахаванняў. Ды і грамадства наша маральна пасталела: на многія рэчы глядзіць больш цывілізавана. Пад уплывам вучняў паступова і я змяніла сваё стаўленне да месцаў пахавання продкаў.

На думку суразмоўцы, пахаванні людзі наведваюць не толькі для таго, каб памянуць блізкіх, але і для таго, каб яшчэ раз далучыцца да гісторыі малой радзімы. На старых могілках у Лунінцы знайшлі апошні прытулак землякі, якія ўзводзілі горад, абаранялі яго ад ворагаў, вызвалялі і адбудоўвалі пасля вайны, першапраходцы-чыгуначнікі, партызаны і падпольшчыкі, тры Героі Савецкага Саюза, ваеннаслужачыя, якія аддалі жыцці пры выкананні службовых абавязкаў…

— Мы вырашылі скласці спіс надмагільных помнікаў з надпісамі і фотакаталог пахаванняў, — распавяла кіраўнік юных краязнаўцаў. — Пасля распрацуем цыкл асветных гутарак з вучнямі 6—7 класаў, правядзём экскурсіі на могілкі, каб хлопчыкі і дзяўчынкі больш даведаліся пра родны кут. Магчыма, гэта дасць штуршок да пачатку добраўпарадкавання старых пахаванняў.

Вучні разам з настаўніцай знайшлі нестандартны падыход да класіфікацыі 2700 пахаванняў. Самае старое пазначана 1899 годам. Лічбы сведчаць, што на працягу стагоддзя смяротнасць сярод мужчын была на 12 працэнтаў вышэйшай, чым сярод жанчын. Сярод тых, хто пахаваны ў Лунінцы, два чалавекі пражылі больш як 100 гадоў.

Дарэчы, на могілках шэрага вёсак больш парадку, чым у горадзе. Безумоўна, у многіх з тых, хто знайшоў апошні спачын у Лунінцы, цяпер не засталося тут ні сваякоў, ні знаёмых. Але ж гэта не павінна быць прычынай занядбання могілак!

— Трэба наводзіць парадак — гэта разумеюць усе, — працягвае Дзіяна Раманаўна. — Спецыялістам камунальнай службы лепш ведаць, што канкрэтна трэба зрабіць. А вось прыбраць смецце, высекчы зараснікі хмызняку могуць і самі людзі. Неабходны суботнік, і не адзін. Упэўнена, што добраахвотнікі знойдуцца, калі работы будуць арганізаваны. Чаму б не пераняць досвед іншых гарадоў, каб надаць прыстойны выгляд некропалю і захаваць гістарычныя дамінанты? Напрыклад, у Пінску старыя могілкі (яны там сумесныя: злева — каталіцкія, справа — праваслаўныя) умоўна разбілі на ўчасткі і замацавалі за вытворчымі прадпрыемствамі. Пастаянным кантролем за станам магіл займаюцца грамадскія арганізацыі.

Аднавіўшы імёны продкаў, школьнікі XXI стагоддзя вярнулі з забыцця некалькі пасляваенных пакаленняў. За апісанне пахаванняў ім выказалі ўдзячнасць кіраўніцтва жыллёва-камунальнай гаспадаркі (хаця самі могілкі пакуль так і не пастаўлены на баланс, але гэта — справа мясцовых улад). Безумоўна, даследаванне можна і трэба працягваць, каб з гісторыі Лунінца не была выкраслена ніводная асоба.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ**

Фотапозірк

# Гісторыі з музейнага чамаданчыка

Супрацоўнікі драгічынскага Ваенна-гістарычнага музея імя Д. К. Удавікова, як заўсёды, жаданыя госці ў дзіцячых аздараўленчых летніках. Іх чамадан з рарытэтамі літаральна заварожвае падлеткаў. А якія цікавыя гісторыі гучаць падчас такіх імправізаваных сустрэч! Падобныя музейна-педагагічныя заняткі трывала ўвайшлі ў практыку.

— Ваенна-гістарычны музей імя Д. К. Удавікова быў заснаваны ў 1990 годзе па ініцыятыве Пінскага таварыства партызан-ветэранаў, — распавёў сённяшні дырэктар установы Сяргей Гранік. — Праўда, першых наведвальнікаў музей прыняў толькі праз тры гады. Напрыканцы 1995 года ўстанове прысвоена ганаровае званне «Народны», а ў снежні 2000 года нададзена імя Дзмітрыя Удавікова, былога начальніка штаба партызанскай брыгады імя Молатава. Само ж таварыства партызан-ветэранаў узнікла ў 1988 годзе з мэтай аб'яднання ўсіх былых народных мсціўцаў, якія змагаліся з фашысцкімі акупантамі ў складзе Пінскага партызанскага злучэння пад камандаваннем Васіля Каржа. Менавіта Дзмітрый Удавікоў быў першым кіраўніком таварыства, савет якога знаходзіўся ў Драгічыне. У 1990 годзе райвыканкам перадаў гэтай грамадскай арганізацыі будынак, у якім размясціліся Музей партызанскай Славы (першая назва) і Савет таварыства. Пасля адкрыцця экспазіцыі музей стаў пляцоўкай для правядзення мерапрыемстваў па героіка-патрыятычным выхаванні моладзі.

Сёння ў фондах музея налічваецца больш як 2000 унікальных прадметаў. Толькі летась паступіла 110 рэчаў — гістарычная памяць пра ўраджэнцаў Драгічыншчыны. Шмат адмысловых экспанатаў прадстаўлена ў пастаяннай экспазіцыі.

— Адны рэчы з запаснікаў дэманструюцца падчас часовых тэматычных выставак, другія вандруюць у музейным чамаданчыку, трэція яшчэ толькі апісваюцца, — распавёў галоўны захавальнік Ваенна-гістарычнага музея Максім Радзько. — Вось за шклом разбітая каска — сведка бою, які быў дадзены немцам 24 чэрвеня 1941 года пад Драгічынам. Толькі на наступны дзень акупанты ўвайшлі ў горад. Доблесныя абаронцы загінулі ў няроўным баі, але на суткі затрымалі фашыстаў на заходнім ускрайку горада. На гэтым месцы ў Драгічыне ў 2004 годзе ўсталяваны помнік.



*Вітраж з асабістымі рэчамі камандзіра Пінскага партызанскага злучэння, Героя Савецкага Саюза, генерал-маёра Васіля Каржа.*




*Фрагмент макета штабной зямлянкі аднаго з атрадаў пінскіх партызан.*

**Раіса МАРЧУК,
фота аўтара**

Млын навін

# Краснапольскі Арбат

Творчы праект пад такой назвай, які ўяўляе сабой сацыяльна-культурную пляцоўку, рэалізуецца ў Краснаполлі. Нядаўна вуліца райцэнтра перад уваходам на цэнтральны рынак стала яшчэ і месцам для самарэалізацыі талентаў і магчымасцей жыхароў і гасцей раёна, работнікаў культуры. Па задумцы арганізатараў, мастакі і паэты, артысты і спевакі, клоўны і майстры народнай творчасці атрымалі магчымасць праспяваць песні, прачытаць вершы, прадставіць выстаўкі сваіх работ, зладзіць прэзентацыю, правесці тэматычную праграму, падзяліцца творчымі навінамі і планамі.

* * *

Свята «І ізноў жыве старадаўні панадворак» адбудзецца ў Мінску ў Дзень горада 3 верасня каля Дома-музея Ваньковічаў, філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Наведвальнікаў чакае тэатралізаваная святочная праграма ў традыцыях XIX стагоддзя з музыкай, гульнямі і танцамі. Гледачы змогуць акунуцца ў атмасферу таго часу: станцаваць паланез, мазурку, вальс, замовіць свой партрэт у стылі ампір, пабываць на канцэрце ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле». А наведаць экспазіцыю Дома-музея Ваньковічаў можна будзе па льготным білеце.

* * *

Цікавыя артэфакты полацкай зямлі прадстаўлены ў зале Музея гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. На выстаўцы «Геральдычная кафля канца XVI—XVIII стст.» экспануюцца прадметы з фондаў гэтай установы, выяўленыя ў культурным пласце Полацка падчас археалагічных раскопак, а таксама назіранняў навуковых супрацоўнікаў за будаўнічымі работамі на гістарычнай тэрыторыі. Наведвальнікі могуць убачыць кафлю з рэлігійнымі матывамі, выявамі дзяржаўных гербаў, з гербамі сярэдняй і заможнай шляхты, з манаграмамі.

Знаходкі геральдычнай кафлі маюць вялікую каштоўнасць, бо дазваляюць навукоўцам выявіць месца знаходжання сядзіб асобных прадстаўнікоў шляхецкіх родаў — Дарагастайскіх, Друцкіх-Сакалінскіх, Кішак, Шчытоў, Сяляваў, Зяновічаў і Шантыроў — на тэрыторыі былога Вялікага пасада ў Полацку канца XVI—XVII стст.

* * *

Даследаваннем гісторыі роднага краю на Гомельшчыне даўно і плённа займаюцца краязнавец Аляксандр Патапаў з Рагачова і журналіст Мікалай Шуканаў са Жлобіна. На іх рахунку — некалькі краязнаўчых кніг, мноства артыкулаў і іншых матэрыялаў, апублікаваных у перыядычным друку. Нядаўна ўбачыла свет новае даследаванне ўлюбёных у сваю справу энтузіястаў — кніга «Доўск и Стары Крыўск: летапіс часу».

Абодва аўтары — члены царкоўна-гістарычнай камісіі Гомельскай епархіі. Іх новы твор прысвечаны аграгарадку Доўск і вёсцы Стары Крыўск, што на Рагачоўшчыне. Легенды, падзеі і людзі, звязаныя з гэтымі мясцінамі, — галоўныя тэмы багата ілюстраванай кнігі. Матэрыял для яе аўтары збіралі па крупінках у архівах, бібліятэках, ездзілі па гарадах і вёсках, каб пагутарыць са старажыламі і ўзнавіць забыты факт або вярнуць з небыцця імя.

# Празаікі перамагаюць




**Выдатна.** Рабіць параўнанні — усё адно што ўзрошчваць стэрэатыпы. І ўсё ж: здаецца, у нас будзе свой О. Генры. Апавяданні Маргарыты Латышкевіч, якія можна знайсці ў ліпеньскім «Полымі», такія ж лёгкія, абаяльныя, дасціпныя, пацешныя і, разам з тым, крышачку тужлівыя. Гэтую мінорную нотку прыўносяць розныя фактары. У адным выпадку — разуменне, што герою нявесела, хоць аўтар і распавядае пра сітуацыю з гумарам. У іншым — прадбачанне новых выпрабаванняў на шляху героя. А яшчэ сум па мінулым, незваротнасць таго, што прыносіла шчасце. Адметная рыса прозы Маргарыты Латышкевіч — дзіцячы погляд на сур'ёзныя ці будзённыя рэчы, якія чытач часцей за ўсё ўспрымае на аўтапілоце, як шарагова-абавязковы рытуал. Гэта можа быць паход у паліклініку, які аўтар апісвае сатырычна, перакручваючы ролі ў даўно вядомым спектаклі на нечаканы манер. Альбо адзін дзень прадаўшчыцы, кранальнай дзяўчыны, якая з іншага боку прылаўка бачыцца як дадатак да касавага апарата, у той час як яна сама хацела б быць ракавой. Зрэшты, і гэта мана: яна хацела б быць шчаслівай. У кожным героі Маргарыты Латышкевіч ёсць нешта дзіцячае, і ў такім бачанні хаваецца сутнасць чалавека. Аўтар заўважае ўсё і нічога не асуджае. Ёсць у яе творах шкадаванне ўсіх і кожнага, але яно не прыніжае, а выклікае сімпатыю. Той самы выпадак, калі хочацца верыць у вялікую творчую будучыню аўтара.

**Сумніўна,** што чытач «Полымя» будзе ўзрушаны ці здзіўлены паэтычнай часткай нумара. За выключэннем вершаў Мар'яна Дуксы, якія не заўсёды «роўныя», але заўсёды — адметныя.

**На суд чытача.** Апавяданне Юльяны Пятрэнка «Чужая вясна» на першы, павярхоўны, погляд здаецца тыпова жаночай прозай. Звычайны дом, звычайная сям'я… У адзін цудоўны вясновы (што сімвалічна) дзень на парозе дома з'яўляецца Мая, якая ў лічаныя хвіліны разбурае сямейнае шчасце гераіні, гаспадыні дома Антаніны: дзяўчына прыйшла па яе мужа.

Сітуацыя для лёгкага вадэвіля? Магчыма. Але аўтар дэманструе пачуццё меры, якое з'яўляецца таксама індыкатарам таленту. Без смяшкоў, гратэску і ў той жа час без залішняй драматызацыі Юльяна Пятрэнка раскручвае гэтую гісторыю, аднолькава паважаючы пачуцці і Антаніны, і Маі. Прычым няшчасная жонка не застаецца ў межах гэтай класічнай ролі: яна праяўляе мацярынскі клопат насуперак эгаістычным інтарэсам, абражаная годнасць суседнічае з чалавечнасцю, боль — са спагадай. Складаны персанаж у творы на дваццаць старонак — не такое і малое дасягненне. У «Чужой вясне» ўвогуле не існуе шаблонных герояў.

Аўтар па-майстэрску трымае інтрыгу. Тут і недасведчанасць няпрошанай госці, і рызыка яе жыццю, і «цёмная лошадка» — уласна муж, які да апошняга застаецца за кадрам. Усе павароты сюжэту лагічна ўзаемазвязаны. Ніякіх нечаканак Юльяна Пятрэнка не стварае штучна. Нязмушанасць і натуральнасць — адметныя рысы аповеду, яны ж — моцныя яго бакі. Прычым у шырокім сэнсе: у маўленні герояў, іх паводзінах, у выпадковых рэпліках другарадных персанажаў.

Адзінае, што ўспрымаецца неадназначна, — фінал «Чужой вясны». Станоўчы, каб чытач паверыў у лепшае, але ці справядлівая датычна задумы твора? Так, ты шчыра радуешся за гераіню і ўсё ж адчуваеш лёгкую прыкрасць. Бясцэнная натуральнасць, запаветнае «веру» прынесеная ў ахвяру хэпі-энду. Гэта варта таго?..

* * *




**Выдатна,** што сярод мноства твораў на высокім пафасе ў ліпеньскім «Нёмане» ёсць адна публікацыя, якая вяртае чытача ў стан раўнавагі, дазваляе зноў паглядзець на свет і сябе ў ім з усмешкай, якой нам так не хапае, калі верыць таму самаму Мюнхгаўзену (а даверу ён, думаецца, заслугоўвае). Ад атручвання сур'ёзнасцю ратуе бліскучая п'еса Льюіса Кэрала «*La guida di Bragia*»: Чыгуначны даведнік ад Брэдшоу». Па вызначэнні аўтара, гэта баладная опера для тэатра марыянетак. Уявіце сутаргавыя рухі лялек у спалучэнні з абсурднымі і да слёз пацешнымі рэплікамі… Свет у мініяцюры, погляд збоку. І зусім не мае значэння, што скіраваны гэты погляд з XIX стагоддзя. Схільнасць адных людзей да «важнічання» і гучных слоў, а іншых да карнавальнага смеху нязменная.

**Сумніўныя** пачуцці выклікае рэцэнзія Георгія Кісялёва на паэтычны зборнік Георгія Барташа «Ботиночки», якая друкуецца ў шматабяцальнай рубрыцы «Искусство суждения». Напрыклад, «…почему же всё-таки автор назвал свой сборник «Ботиночки»? Одноименное стихотворение не произвело на меня впечатления, потому что написано верлибром». Густ — недатыкальны скарб асобы, з гэтым ніхто спрачацца не будзе. Аднак калі адну з найбольш пашыраных у сусветнай літаратуры паэтычных форм называюць бясформенным кавалкам прозы, калі ёй адмаўляюць у прыналежнасці да паэзіі праз адсутнасць рыфмы, толькі і застаецца паспачуваць Максіму Танку, Максіму Багдановічу, Веньяміну Блажэннаму і іншым геніям верлібра. Колькі гадоў аддалі яны служэнню памылковым ідэям!..

**На суд чытача** прапануем пераклад «Франкенштэйна» Мэры Шэлі, які здзейсніла Зінаіда Краснеўская. Навошта рабіць чарговы пераклад твора, які і так мае некалькі рускамоўных варыянтаў?.. Гэта заўсёды цікава: паглядзець на знаёмы твор чужымі вачыма, адкрыць тонкія нюансы, убачыць іншыя колеры, заўважыць новыя рысы ў партрэтах герояў. Не меншай увагі заслугоўвае прадмова перакладчыцы, з якой шмат у чым можна паспрачацца — але ў гэтым таксама ёсць свая чытацкая асалода.

* * *

**Выдатна:** «філалагічная» канцэпцыя нумара. Тэматычныя нумары літаратурна-мастацкіх часопісаў, як правіла, прысвечаны пэўнаму рэгіёну альбо памятнай даце. Але здараюцца выключэнні. Так, сёмы нумар «Маладосці» атрымаўся кніжна-гістарычным дзякуючы некалькім вызначальным творам, да якіх добра дапасоўваюцца іншыя публікацыі. Героі твораў Марыі Маляўка, Кірыла Стаселькі і Ягора Конева — маладыя людзі, захопленыя светам кніг, моў і «вольных мастацтваў». У кожным творы ёсць не толькі галоўны герой, але і галоўная кніга — праўда, сустрэча героя і кнігі не заўсёды аказваецца шчаслівай. Кніга можа стаць выпрабаваннем: раптам ты не варты яе? Ці атрымаецца прыняць паразу і назапасіць сілы, каб зразумець прызначаную табе кнігу? Пра гэта — апавяданне Кірыла Стасялькі «Кніга ў вянку з церняў».

Адметная кніга — заўсёды таямніца. Здаецца, кожны са згаданых аўтараў у свой час трапіў пад уражанне ад рамана Умбэрта Эка «Імя ружы», нягледзячы на тое, што іх героі жывуць у больш блізкія да нас эпохі. Цікавасць да кніг сведчыць пра дасціпнасць і розум. Нагадваць пра гэта ў верасні — даволі банальна, таму адлегласць паміж сёмым нумарам «Маладосці» і пачаткам восені якраз дарэчы…




**Сумніўна:** дэбюты. Гадоў дзесяць таму «Маладосць» пераважна прадстаўляла творчы наробак сталых, але маладых душой творцаў. Сёння гэта пляцоўка, якая знаёміць чытача з крэатыўнымі і часцей пазітыўнымі маладымі аўтарамі, якія пішуць і думаюць па-беларуску і разам з тым арганічна пачуваюцца ў сучасным жыцці. Ужо таму кожны аўтар часопіса — чалавек выдатны, што не выключае магчымых заўваг. Напрыклад, апавяданне Марыі Маляўка «Чужая партыя», дзе ў сне здзяйсняецца музычная мара гераіні, змяншае ўражанне ад апавядання «Адшукаць мову». Дэбютны твор Наталлі Голубевай «Лета з Язэпаўнай», падаецца, лепш пасаваў бы для «Бярозкі», бо высновы, якія можна зрабіць з гэтага тэкста, актуальныя хутчэй для дзяцей, чым для юнакоў і дзяўчат. У паэтычных нізках Алёны Карасёвай, Маргарыты Латышкевіч, Алеся Дуброўскага-Сарочанкава і Сяргея Балаханова чытач, магчыма, таксама вылучыць неадназначныя творы і ў той жа час абавязкова знойдзе цікавыя думкі, вобразы і нават сюжэты…

**На суд чытача:** Мікола Сянкевіч «Развіццё вобразнага і крытычнага мыслення на ўроках літаратурнага чытання ў пачатковых класах» (рубрыка «Лекцыі»). Здавалася б, тэкст пад такім загалоўкам адрасаваны выключна настаўнікам. Але насамрэч гэта выдатная знаходка для бацькоў, якія імкнуцца зацікавіць дзіця літаратурай. Аўтар нагадвае пра значнасць творчага ўяўлення, вобразнага ўспрымання мовы, дае карысныя парады па кіраўніцтве дзіцячай творчасцю і прапануе некалькі дзясяткаў займальных практыкаванняў. Матэрыялы, падрыхтаваныя выкладчыкам Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, дапамогуць цікава правесці час як з групай дзяцей, так і сам-насам з малечай: паразважаць, пагуляць са словамі, прыдумаць шмат уласных казак, вершыкаў ды цікавых гісторый!

# Княская містэрыя

**Сярэдзіна XIII стагоддзя — багаты на падзеі і далёкі ад нас час, які яшчэ са школьнай пары хочацца ўявіць больш дакладна. Апублікаваная ў «Маладосці» містэрыя «Трон» Івана Саверчанкі дапаможа ўзнавіць храналогію і пашырыць веды пра перыяд утварэння Вялікага Княства Літоўскага.**

Галоўны герой твора — князь Міндоўг, які спяшаецца ў акружаны мечаносцамі Крывы горад, каб перамагчы падступаючых германцаў. Да ўрачыстай каранацыі застаецца яшчэ 24 гады, на працягу якіх легендарны ўладар Літвы змагаецца з крыжакамі і татарамі, падпарадкоўвае суседніх князёў, прымае праваслаўе, а потым каталіцтва… Жыццяпіс Міндоўга дазваляе ўявіць зменлівую сітуацыю ў рэгіёне — і можна са здзіўленнем даведацца, што ворагамі Літвы былі нават польскія ды галіцка-валынскія князі.

Паводле аўтарскага вызначэння «Трон» — містэрыя. Змешчаны твор у рубрыцы «Публіцыстыка» і нагадвае біяграфічны нарыс. Міндоўг — адзіная маштабная фігура аповеда. Наступны па значнасці персанаж — загадкавы Войшалк — кніжнік, манах, удзельнік некалькіх ваенных паходаў. Жонкі Міндоўга — Радміла і Марфа — увасабляюць розныя тыпы ідэальнай жанчыны: першая — адухоўленая хрысціянка, другая — вабная прыгажуня і выдатная гаспадыня.

Пазбаўлены аўтарскай волі нават сябра-дарадцы, князь з'яўляецца ўвасабленнем аўтарытарнай улады: самастойна прымае рашэнні, не мае звычкі раіцца з падданымі ці сваякамі, хоць заўсёды адчувае «цяжар адказнасці за лёс Бацькаўшчыны».

Міндоўг належыць да гістарычных дзеячаў, чыю біяграфію цяжка аб'ектыўна прадставіць у творы навукова-папулярнага жанру. Уладар Літвы як літаратурны герой быў бы абсалютна розным у гістарычных раманах літоўскіх, польскіх, расійскіх, нямецкіх аўтараў. Ды і беларускія пісьменнікі могуць па-іншаму інтэрпрэтаваць многія ўчынкі князя. А пазіцыя «свае» — «чужыя» дагэтуль застаецца актуальнай: апраўдаць жорсткасць і непрывабныя ўчынкі «сваіх» прасцей, чым зразумець агрэсіўнага чужынца. Разам з тым Іван Саверчанка не імкнецца надта ідэалізаваць «сваіх», таму «Трон» дазваляе ўявіць дзікі нораў продкаў і заўважыць памылкі Міндоўга, апошняй з якіх стала захапленне маладой жонкай князя Даўмонта.

Публікацыя Івана Саверчанкі добра стасуецца з іншымі матэрыяламі нумара і выклікае цікавасць у першую чаргу як карысны навукова-папулярны нарыс.

**Юлія ШПАКОВА**

# Дваццатыя гады — з каментарыямі

**Экстрэмальны паэт, сябар суполкі Бум-Бам-Літ, аматар перформансаў, спецыяліст па літаратуры 20-х гадоў, архівіст... Віктар Жыбуль — унікальная асоба ў беларускай літаратуры і цікавы суразмоўца па розных тэмах. Гэтая размова — для ўсіх, хто чытае Віктара Жыбуля ў розных жанрах і падзяляе цікавасць сучасных даследчыкаў да 20—30-х гадоў. Кодавыя словы — «футурызм» і, вядома, «архіў»!**

**— Спадар Віктар, якія матэрыялы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва дазваляюць пашырыць уяўленне пра сацыякультурную сітуацыю 20—30-х гадоў?**

— Мы маем вялікія і багатыя фонды Адама Бабарэкі, Барыса Мікуліча, Язэпа Пушчы, Уладзіміра Дубоўкі, Максіма Лужаніна, Міхася Чарота, Сяргея Грахоўскага, Лукаша Бэндэ, Станіслава Шушкевіча, Алеся Кучара. Кажучы пра самыя адметныя матэрыялы, найперш згадаю фонд Адама Бабарэкі. Пісьменнік шмат разважаў пра свой час, у тым ліку калі апынуўся ў высылцы. Ёсць у яго невялічкае эсэ пад назвай «Сэнс выгнання» (1933). З тэкста вынікае, што Бабарэка абмяркоўваў праблему рэпрэсій з высланымі сябрамі, напрыклад, Феліксам Купцэвічам. Так, ён піша: «Фелікс разглядае справу выгнання з Беларусі інтэлігенцыі як вызначэнне адмоўнага дачынення кіруючай партыі да з'явы нацыянальнага росту краю, да росту беларусаў як нацыі, і таму сама справа гэта ёсць падразанне гэтага росту...». Гэтыя небяспечныя думкі захаваліся ў чарнавіках. Бабарэка ў высылцы даволі актыўна пісаў, нешта занатоўваў для сябе. Наогул, дзённікаў таго часу захавалася вельмі мала, яны існуюць пераважна ва ўрыўках. Згадаю яшчэ пісьменніка Барыса Мікуліча і яго «Аповесць для сябе». Ён пісаў яе ўжо ў 40-х гадах у высылцы ў форме дзённіка і шмат згадваў 20—30-я гады. Па гэтай аповесці можна даследаваць літаратурнае, культурнае жыццё Беларусі таго часу.

**— Калі пісьменнік трапляў у высылку і там абрывалася яго жыццё, ці ёсць верагоднасць знайсці ў тамтэйшых архівах цікавыя матэрыялы?**

— Думаю, так. Напрыклад, у сяле Машукоўка ў Сібіры, дзе жыў згаданы Барыс Мікуліч, ёсць людзі, зацікаўленыя ў захаванні і вывучэнні яго спадчыны. Наш архіў-музей трымае з імі кантакт.

> *Для кожнага часу, па словах Алеся Наўроцкага, ёсць свае Курапаты. Тое, праз што прайшоў ён сам, называе «псіхіятрычнымі курапатамі». Давялося прачытаць і пра псіхіятрычны шантаж у брэжнеўскія часы, і яшчэ пра сёе-тое... Так што небяспечныя для сумленнага грамадства з'явы сустракаюцца ў розныя часы.*

**— Ці не здаецца вам, што пошукі вядуцца недастаткова актыўна?**

— Магчыма, але гэта мае свае тлумачэнні. Многія рэпрэсаваныя літаратары асядалі ў месцах высылкі альбо пераязджалі, але заставаліся за межамі Беларусі. Цяпер дзесьці ў Сібірскіх гарадках і вёсачках жывуць іх нашчадкі. Здавалася б, ёсць інтэрнэт, магчымасцей для кантактаў шмат. Часам удаецца знайсці нашчадкаў пісьменнікаў і атрымаць ад іх нейкія матэрыялы. Напрыклад, пару гадоў таму я пазнаёміўся з сям'ёй беларускага эсперантыста, перакладчыка і крытыка Змітра Снежкі, які быў рэпрэсаваны, высланы і ў 1957 годзе памёр у далёкім расійскім горадзе Перм. Цяпер у Люберцах жыве яго дачка, у Маскве — унук. Яны перадалі біяграфічныя матэрыялы Змітра Снежкі, а я ў сваю чаргу зрабіў ксеракопіі твораў, якія захоўваюцца ў нас.

Цікавая гісторыя адбылася з архівам паэта Паўлюка Шукайлы. Мне падказалі тэлефон яго сваякоў у Маскве. Высветлілася, што ў той самай кватэры, якую Шукайла атрымаў у 1929 годзе, дагэтуль жыве яго дачка з сям'ёй. Шукаючы дакументы па маёй просьбе, яны знайшлі на балконе кош са старой бялізнай, на дне якога аказаліся рукапісы, стэнаграмы Шукайлы, пра якія яны нават не ведалі. Паперы ляжалі там больш за 70 гадоў!

**— Якім чынам вы звярнуліся да 20-х гадоў?**

— З юнацтва цікаўлюся нестандартнымі літаратурнымі з'явамі, авангардысцкімі кірункамі. У свой час звярнуўся да футурызму, прачытаў дастатковую колькасць расійскіх, а пазней украінскіх, польскіх аўтараў-футурыстаў. Узнікла думка: «Усе гэтыя краіны знаходзяцца вакол Беларусі. Няўжо ў нас нічога такога не адбывалася?..» Пачаў шукаць. Выпадкова даведаўся пра «Беларускую літаратурна-мастацкую камуну», удзельнікі якой называлі сябе футурыстамі. Хацелася даведацца пра іх дзейнасць, а не было дзе, акрамя энцыклапедычных нататак маленькага памеру...

З аўтараў, якія мяне ў свой час закранулі і ўсхвалявалі, згадаю Язэпа Пушчу, які свядома лічыў сябе беларускім імажыністам. У яго вершах цікавая вобразнасць, якая грунтуецца на эстэтычных кантрастах, асабліва ў ранняй лірыцы. Падабаюцца таксама Уладзімір Дубоўка, Віктар Казлоўскі, Алесь Пруднікаў... У свой час для мяне быў адкрыццём паэт Мікола Бацюшкоў, які пісаў у 30-я гады. Мне здаецца, гэта такі віртуозны жанглёр словамі ў добрым сэнсе:

*Рыпелі вароты, хрыпелі бары,*
*вятры пелі ротнай капелай,*
*і рыфмы —*
*тарыфных радкоў разбяры*
*разважнаю смеласцю спелі.*



Віктар Жыбуль.

**— Наколькі такія творы былі запатрабаваныя чытачамі?**

— Творы са складанымі метафарамі, вобразамі, алітэрацыямі, асанансамі і іншымі прыёмамі больш падабаліся студэнцкай і ўвогуле гарадской аўдыторыі. У вёсках чытачы былі іншыя. У Якуба Коласа ёсць апавяданне «Трыумф»: паэт-маладняковец прыехаў у вёску і выступаў з вершамі, а яго ніхто не зразумеў.

**— І самому Якубу Коласу не вельмі падабаліся іх вершы?..**

— Мяркую, што так. Але ён, напрыклад, быў у добрых адносінах з расійскім футурыстам Аляксеем Кручоных, які выказваў даволі радыкальныя эстэтычныя пазіцыі.

**— Чым для вас асабіста прывабны футурызм як мастацкі кірунак?**

— Футурыстычная паэзія вабіць самымі нечаканымі вобразамі, метафарамі, гульнёй слоў... У тым апавяданні Коласа паэт паказаны шаржава-карыкатурна, але народная маса, якая яго слухала, асаблівага захаплення ў мяне таксама не выклікала. Гэта людзі, якія з-за неадукаванасці не здольныя разумець, напрыклад, вобразна-метафарычную мову і ўсё ўспрымаюць літаральна. Я разумею Коласа: ён усё ж народны паэт і імкнуўся быць бліжэй да народа...

За школьныя гады я крыху стаміўся ад «правільнай» і занадта зразумелай традыцыяналісцкай паэзіі. Я чакаю ад паэзіі мацнейшых уражанняў, чым могуць даць звычайныя рэалістычныя вершы. Паэзія павінна ўражваць. Любымі сродкамі. Мне падабаюцца эксперыменты са словам, адвольныя асацыяцыі, нечаканыя парадоксы, іронія. Аднак у поле маіх даследаванняў трапляюць самыя розныя аўтары і творы.

**— Такім чынам, футурызм прывёў вас на філалагічны факультэт БДУ?**

— Калі я заканчваў школу, то больш цікавіўся архітэктурай, хацеў паступаць на гістфак на аддзяленне аховы помнікаў. Але ў той самы час пачаў наведваць літаб'яднанне пры часопісе «Першацвет», дзе пазнаёміўся з многімі маладымі паэтамі, празаікамі, якія на той час альбо вучыліся на філфаку, альбо рыхтаваліся туды паступаць. Мне вельмі падабалася гэтае асяроддзе, з'явілася шмат аднадумцаў. Так і вырашыў пайсці на філфак.

**— Калісьці вы марылі звязаць жыццё з архітэктурай. Каму з паэтаў 20—30-х гадоў хацелі б паставіць помнік?**

— Апошнімі днямі думаў пра помнік Тодару Кляшторнаму. Тут, відаць, справа не ў асабістай сімпатыі, хоць яго творчасць мне падабаецца. Проста я цікаўлюся гісторыяй не толькі літаратуры, але і горада, у якім жыву. Я даведаўся, дзе стаяў дом, у якім у 30-я гады жыў Тодар Кляшторны. Гэта былы пасёлак Камінтэрн, цяпер — раён Мотавелазавода. Там, дзе месціўся дом, сёння звычайны газон. Я там даволі часта бываю і ўвесь час думаю, як добра было б, каб тут стаяў помнік. Хацелася б, каб пісьменнікаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў больш шанавалі і часцей адзначалі помнікамі альбо мемарыяльнымі дошкамі.

**— Ці не здаецца вам, што сучасныя беларусы проста не адчуваюць сябе нашчадкамі Дубоўкі, Бабарэкі, Кляшторнага? Гэты перыяд нібы выпаў з памяці грамадства...**

— Нагадваць пра 20-я гады, пра час рэпрэсій, безумоўна, варта. Але рабіць гэта трэба ў папулярнай і даступнай форме. Адразу, сходу, сучасны чалавек не стане чытаць пра дзесяціны зямлі, плугі, трактары. Наогул, тая эпоха будзе падавацца нашым суграмадзянам усё менш і менш зразумелай. Нават да перавыдання твораў савецкіх пісьменнікаў пазнейшага часу трэба пісаць вялікі гістарычны каментарый, каб было зразумела, што да чаго (як атрымалася ў мяне з падрыхтоўкай «Выбраных твораў» дысідэнта Алеся Наўроцкага. Праўда, у гэтым выпадку асабліва размахнуцца з каментарыямі не дазволіў аб'ём кнігі...).

**— Можна згадаць шэраг сучасных праектаў, разлічаных на шырокую аўдыторыю, якія вяртаюць у 20-я гады. Гэта пастаноўкі «Пясняр» і «Дзве душы», сустрэчы Ганны Севярынец «Чытаем класіку», нарысы Людмілы Рублеўскай у «СБ», новы нумар электроннага часопіса «Прайдзісвет»...**

— Актуалізацыя літаратуры мінулых часоў — вельмі важная справа. Многім зручней успрыняць створанае класікамі (і не толькі класікамі) не праз кнігу, а праз сцэнічную ці музычную інтэрпрэтацыю альбо жывую дыскусію. Скажам, жаночая літаратура, фемінізм — папулярныя сёння дыскусійныя тэмы. А ідэя новага нумара «Прайдзісвета» паказала, што ў гэтым кантэксце цікава разгледзець творчасць паэтак 20-х гадоў. Займаюцца гэтым людзі зацікаўленыя, схільныя да навуковых і творчых пошукаў. Згаданая Ганна Севярынец — частая госця нашага архіва-музея, дый не толькі яго. А аўтар «Песняра», драматург і рэжысёр Васіль Дранько-Майсюк, калі бярэцца пісаць п'есы пра дзеячаў нашай культуры, то вельмі грунтоўна вывучае іх біяграфіі і творчасць — можна сказаць, перажывае разам з імі той час. Потым усё атрымліваецца жыва, дынамічна і не без крэатыўнай іроніі.

**— Якія самыя адметныя даследаванні ці знаходкі па літаратуры 20-х гадоў вы маглі б згадаць?**

— Наша акадэмічная літаратуразнаўчая навука займаецца даследаваннем найперш народных пісьменнікаў ці ўвогуле хрэстаматыйных аўтараў — на тое яна, мабыць, і акадэмічная. Таму ў энцыклапедычных і біябібліяграфічных даведніках мы сустрэнем асобныя артыкулы не пра ўсіх цікавых аўтараў, чый унёсак у літаратуру быў сціплы, але па-свойму адметны. Часта вывучэнне аўтараў «не з вяршыні Пантэона» становіцца справай энтузіястаў-адзіночак. І атрымліваецца, што менавіта ў гэтай галіне адбываецца найбольш адкрыццяў. Скажам, Сяргей Чыгрын і Сяргей Ёрш сабралі і выдалі спадчыну забытага заходнебеларускага паэта Язэпа Вількоўскага, Сяргей Панізнік і Міхась Казлоўскі — творы Віктара Вальтара, Вольгі і Сяргея Сахаравых, Пятра Сакала і Валянціны Казлоўскай, калінкавіцкі краязнавец Уладзімір Лякін — аб'ёмны дакументальны нарыс пра адэскага беларуса пісьменніка Змітра Віталіна (Сергіевіча)...

> *Апошнімі днямі думаў пра помнік Тодару Кляшторнаму. Я даведаўся, дзе стаяў дом, у якім ён жыў у 30-я гады. Гэта былы пасёлак Камінтэрн, цяпер — раён Мотавелазавода. Там, дзе месціўся дом, сёння звычайны газон. Як добра было б, каб тут стаяў помнік...*

**— Складальнікі кнігі «Расстраляная літаратура» ў інтэрв'ю гаварылі, што не спалі начамі пад уражаннем ад тагачасных падзей. Як уплывае на вас вывучэнне матэрыялаў, звязаных з 20—30-мі гадамі?**

— У архіве-музеі я працую з матэрыяламі, якія тычацца розных перыядаў. Але для кожнага часу, па словах Алеся Наўроцкага, ёсць свае Курапаты. Тое, праз што прайшоў ён сам, называе «псіхіятрычнымі курапатамі». Рыхтуючы творы Наўроцкага, давялося прачытаць і пра псіхіятрычны шантаж у брэжнеўскія часы, і яшчэ пра сёе-тое… Так што небяспечныя для сумленнага грамадства з'явы сустракаюцца ў розныя часы.

**Яўгенія ШЫЦЬКА,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# З табой ці без цябе



Анатоль ЗЭКАЎ

***

*Я перастаў ужо баяцца*
*пякельна-горкай жорсткай праўды:*
*з табой сустрэцца і расстацца —*
*і назаўжды, а не да заўтра.*

*Сустрэцца, і цябе пабачыць,*
*і зразумець яшчэ з парога,*
*што ўжо нічога не зылачыць*
*і не пачаць наноў нічога.*

*Сустрэцца, і абняць, як калісь,*
*і вуснамі крануцца вуснаў,*
*і ўжо ўсвядоміць, што ніколі*
*не прыгарнуць цябе спакусай.*

*Сустрэцца, ведаючы тое,*
*што мусім назаўжды расстацца,*
*бо немагчыма нам з табою*
*і разам быць, і сустракацца.*

***

*З табой ці без цябе*
*мне быць, пакуль не знаю.*
*І дні мае ў журбе,*
*бы ў полымі, згараюць.*

*І як вярнуць назад*
*каханне мне былое?*
*Вярнуць бы, мажа, й рад,*
*ды будзе ўсё не тое.*

*Не тое і не так,*
*бо як што раптам рвецца —*
*і звяжаш мо, аднак*
*вузельчык застаецца.*

***

*Цалаваць дні і ночы*
*я хацеў бы да ўздыху апошняга*
*твае вусны, і вочы,*
*і цябе ўсю да клетачкі кожнае.*

*Ды ці хопіць мне часу,*
*каб усё, пра што мару, паспелася,*
*бо так рэдка мы разам,*
*ды і тое не так, як хацелася б?*

***

*Каюся — і аддаляюся,*
*аддаляюся я — і каюся,*
*каюся, што аддаляюся,*
*каюся, што не вяртаюся,*
*каюся, што памыляюся.*
*Каюся,*
*каюся,*
*каюся...*

***

*Як прайсці праз церні,*
*жывучы ў журбе,*
*захаваўшы вернасць,*
*любая, табе?*

*Як з сабою зладзіць,*
*бо спакусніц — рой,*
*і табе не здрадзіць,*
*жыўшы не з табой?*

***

*Ты кажаш, што не ўсё як быццам*
*страчана,*
*але ж, павер, і страчана так шмат.*
*Як шмат было б, напэўна, перайначана,*
*каб мы вярнуліся крыху назад.*

*Аднак ці варта ўсё ж назад варочацца*
*і пачынаць спачатку ўсё ў былым,*
*калі й таго, што мелі мы, не хочацца*
*губляць з табой, каханая, зусім.*

***

*Навошта табе сябе мучыць?*
*На сэрцы я зла не трымаю.*
*І, хоць невыносна-балюча,*
*на волю цябе адпускаю.*

*Праводжу хіба што паглядам*
*цябе, закаханым і скрушным.*
*Ляці-адлятай, мая радасць,*
*маёй непрыручанай птушкай.*

***

*Не думай пра мяне —*
*усё мінае.*
*І гэта праміне,*
*за небакраем*
*схаваецца, каб больш*
*не ўзнікнуць.*
*Ды не знікае боль*
*па тым, вялікім*
*каханні, што было,*
*давала сілы,*
*што колісь нас звяло —*
*і адпусціла.*

*Не думай пра мяне...*

***

*Дыхнула холадам расстання,*
*хоць і балюча зразумець,*
*што нашаму з табой каханню*
*наканавана дагарэць.*

*Распальвалі касцёр мы самі,*
*раздзьмухвалі штодня яго,*
*і ён цяпер гарыць над намі —*
*мы й не заўважылі таго.*

*Гарыць касцёр — і спапяляе*
*каханне нашае датла.*
*А мы зусім не заўважаем*
*таго,*
*аслепшы ад святла.*

***

*Я аднойчы змірuся*
*са сваёю журбою*
*і расстацца рашуся*
*назаўсёды з табою.*

*Бы павязку ад раны*
*адарваўшы з крывёю,*
*я сыду, закаханы*
*і каханы табою.*

*Я сыду, каб не бачыць*
*больш цябе і не чуць мне,*
*зразумеўшы: іначай*
*усё роўна не будзе*

*ў нас з табою нічога.*
*Хоць ты Бога упрошвай,*
*развінуцца дарогі,*
*у адну не сышоўшы...*

***

*Колькі часу міне —*
*я знайду сваё шчасце,*
*ды наўрад ці зазасціць*
*яно вобраз твой мне.*

*Хай азорыць святлом*
*і цяплом, ды, здаецца,*
*тое ўсё ж не сатрэцца,*
*што між намі было.*

*З іншай буду я, ды,*
*з кім ні быў бы, усё-ткі*
*час запомню кароткі,*
*у які была ты.*





Галіна МАРОЗ

## Родная зямля

*Зямля беларуская — Маці мая,*
*Сцяжынка да роднага дома,*
*Тваёй прыгажосцю любуюся я,*
*Куточак з дзяцінства знаёмы.*

*Чароўная, ціхая песня душы,*
*Пачуццяў жывая скарбонка:*
*Сардэчны спакой у азёрнай цішы,*
*Птушыных напеваў гамонка.*
*Радзімае месца, надзеі выток,*
*Калыска таемных жаданняў,*
*Жывучай крынічнай вадзіцы глыток,*
*Свяшчэнны алтар пакаянняў.*

## Цудоўны край

*Цяжкое калоссе здалёк мне ківае*
*Сваёй залацістай, буйной галавой,*
*Іду я па ўзмежку і песні спяваю,*
*На сэрцы маім — цішыня і спакой.*

*А птушкі шчабечуць, чырыкаюць*
*звонка,*
*Ліецца над полем знаёмы матыў,*
*Прыемна да болю такая гамонка*
*І гэты чароўны дыван залаты.*

*Такой прыгажосці нідзе не ўбачыш,*
*Мой край беларускі адзіны такі, —*
*На ўлонні прыроды спяваеш, і плачаш,*
*І пішаш душою ды сэрцам радкі.*

## Душэўны скарб

**40 год, як няма матулі**

*Матулечка любая, голас твой дзіўны*
*Як скарб, у душы берагу,*
*Здаецца, у свеце такі ён адзіны,*
*Што лечыць мне боль і тугу.*
*Усмешка твая, нібы промнік ад сонца,*
*Любові дае да жыцця,*
*Чароўным цяплом авявае бясконца —*
*Прыемней няма пачуцця.*
*Захоўвае памяць пяшчотныя рукі*
*І шчодрага сэрца святло,*
*Балюча скрабуцца душэўныя мукі —*
*Не вернеш таго, што было...*
*Водар матулінай роднае мовы*
*З любоўю я ў сэрцы нашу.*
*З нябёсаў гучаць яе шчырыя словы —*
*Лаўлю іх і вершы пішу.*

## Твае карані

*На імгненне душа замірае,*
*Разліваецца ў сэрцы цяпло,*
*Па знаёмых сцяжынках ступаю,*
*Дзе дзяцінства калісьці прайшло.*

*У далонях яно нас люляла*
*І дарыла нябачаны рай,*
*Мар салодкіх віхуру ўздымала —*
*І пачуцці ліліся праз край!*

*Сэрцу мілая родная хата,*
*Сад і луг аксамітны такі!*
*Падарункі, прысмакі на свята*
*І пакуль што жывыя бацькі...*

*Збажына пазалотай вітае,*
*У паклоне хіне каласы,*
*Хор птушыны здалёк сустракае*
*Галасамі дзівоснай красы.*

*І цяпер дарагая зямліца*
*Ў невыказных пачуццях жыве,*
*Дазваляе знутры асвяціцца,*
*Калі зноўку прыйсці да яе.*

*Кожны крок, подых ветру смакую —*
*І ўсё цешыць, куды ні зірні...*
*Не шукай ты старонку святую —*
*Там яна, дзе твае карані.*

## След на зямлі

*Накукуй мне, зязюля, яшчэ столькі гадоў,*
*Каб паспела сплясці я вяночак са слоў,*
*Каб хапіла любові да радзімай зямлі,*
*Дзе матуліна мова, дзеці, ўнукі раслі,*
*Каб хацелася шчыра дабрыню раздаваць,*
*Са шчаслівай усмешкі новы дзень*
*пачынаць,*
*Каб прыгожымі, лёгкімі думкі былі*
*І змагла я пакінуць добры след на зямлі.*



Людміла КЕБІЧ



# Яблыня

*Урывак з апавядання*

## 1

Жылі-былі на вуліцы Камарова дзед і баба. Жылі яны на першым паверсе пяціпавярховага цаглянага дома, якіх у Гародні шмат. Прыкметныя былі для жыхароў дома дзед і баба. І не толькі сваім прозвішчам — Пугач. Жылі яны ўдваіх, і ніхто ніколі не ведаў, ці ёсць у іх дзеці або яшчэ якая-небудзь радня. Ніколі ніхто да старых не прыязджаў і не заходзіў. Жылі яны абсалютнымі пустэльнікамі. З суседзямі, праўда, віталіся, але гэтыя іх прывітанні нагадвалі больш мармытанне сабе пад нос. Хадзілі Пугачы ўсюды толькі ўдваіх: на рынак, у краму, у паліклініку… Нават, казаў нехта, аднойчы разам у шпіталі ляжалі. Баба Гэля ніколі з бабулькамі-суседкамі на лавачцы ля пад'езда не сядзела, а дзед Рыгор ніколі не набліжаўся да стала, за якім па суботніх вясновых і летніх вечарах мужчыны гулялі ў даміно. Недалюблівалі старых людзі, стараліся не закранаць іх ніякімі пытаннямі, і гэта зразумела. Навошта чалавеку непрыемнасці, праклёны і злыя позіркі спадылба?! А яшчэ дзед і баба часта сварыліся. Ды чым старэйшыя станавіліся, тым часцей з іх кватэры аж да пятага паверха даляталі крык і лаянка. «Што яны там не падзялілі?!» — здзіўляліся тады жыхары пад'езда.

І Віцька здзіўляўся. Ён чуў, як ніхто іншы, што дзеецца ў кватэры дзеда і бабы, таму што жыў на другім паверсе — над імі. Жыў, вядома ж, не адзін, а з мамай і татам, яшчэ і сястра старэйшая ў яго была — Света, якая вучылася ў Мінску ў лінгвістычным універсітэце і дадому прыязджала толькі на выхадныя, адзін раз у месяц. Віцька жыў цяпер у Светціным пакоі, якраз над спальняю дзеда і бабы. Хлопчык таксама пабойваўся старых, асабліва дзеда Рыгора. Калі Віцька быў маленькі, яму здавалася, што дзед Рыгор — Бармалей. Аднойчы ён прызнаўся матулі ў тым, што вельмі не любіць дзеда Рыгора.

— За што, мой ты хлопчык? Ён жа ніколі цябе не чапаў, — здзівілася добрая Віцькава мама. — Вунь, нават яблыньку пад акном пасадзілі дзед з бабаю, калі сюды засяляліся.

— Таму што дзед Рыгор вялікі і страшны! — таямніча прашаптаў тады Віцька. Ён не думаў і не ведаў, што неўзабаве лёс сутыкне яго з гэтымі дзіўнымі суседзямі.

## 2

У той дзень Віцька прачнуўся ад шчасця. Скажаце, так не бывае? Яшчэ як бывае, калі табе трынаццаць гадоў, учора ты скончыў сёмы клас, а сёння пачынаюцца летнія канікулы — самыя доўгія, вясёлыя і цёплыя! Хлопчык скінуў нагамі лёгкую баваўняную коўдру, саскочыў з тахты і босымі нагамі пашлэпаў на балкон. Чэрвеньская раніца абяцала цудоўны дзень. Віцька падняў рукі ўгору і пацягнуўся ўсім сваім яшчэ вельмі дзіцячым, хударлявым целам насустрач сонцу. А яно палала насупраць вокнаў яго кватэры так радасна і ветліва, што хлопчык міжволі засмяяўся.

— Што б мы рабілі, калі б не ты, мая любая яблынька? — Віцька дакрануўся да зялёнай галінкі, якая прасунулася на іх балкон. — Згарэлі б у спёку, а так — цянёк!

Хлопчыку вельмі падабалася тое, што яблынька, якую пасадзілі дзед і баба Пугач, дарасла да другога паверха і ён мог пакратаць яе лісце ў любы час. А восенню яблыкі самі валіліся на іх балкон, бяры — не хачу! Не згадваючы ўжо пра квеценьі, калі дрэва ўбіралася ў бела-ружовыя пялёсткі, свята ад якіх прасочвалася ў пакой і напаўняла яго водарам вясны. Дарэчы, знізу людзі не бачылі такой пышнай прыгажосці, якую назіраў са свайго балкона Віцька: самы густы цвет быў наверсе яблыні.

Сонечна-паветраную нірвану хлопчыка перарваў крык пад акном кухні, акно якой выходзіла на другі бок іх дома. Крычаў аднакласнік, які жыў у другім пад'ездзе. Віцька адразу пазнаў Артураў голас і заспяшаўся на кухню.

— Слухай, Віцёк, якія планы на сёння? — бадзёрым тонам, як падалося Віцьку, спытаў сябрук. І не паспеў хлопец сабрацца з думкамі, як Артур прапанаваў:

— Давай з намі на возера, у Гожу!

Паедзеш?..

Хлопчыкі дамовіліся, дзе сустрэнуцца, і Віцька пачаў збірацца. Вядома ж, найперш маме патэлефанаваў — адпрасіўся да вечара. Затым памыўся, паснедаў і, захапіўшы сумку з ручніком, плаўкамі, вадалазаўскімі акулярамі і бутэрбродамі, накіраваўся на аўтобусны прыпынак.

Артур і яшчэ некалькі хлопчыкаў з іх класа толькі яго і чакалі. Неўзабаве падышоў рэйсавы аўтобус на вёску Прывалкі, бітком набіты дачнікамі, але сябры неяк усунуліся ў яго гарачае чэрава і паспяхова даехалі да возера.

Сонца, свежае паветра і чысцюткая, як сляза, вада штучнага возера, якое ўтварылася на месцы былога пясчанага кар'ера, у апошнія гады прыцягвалі сюды гродзенцаў неймаверна. На «Юбілейным» хоць і больш цывілізавана, ды вельмі ж ужо народу шмат, адзін на адным, здаецца, ляжаць. А тут і вада цяплейшая, і кожны можа сабе куточак знайсці, каб адасобіцца, аднаму пабыць, ці ўдваіх, ці то сам-насам са сваімі мроямі-думкамі.

Да самага вечара бавіліся хлопцы на Гожскім возеры: плавалі, загаралі, скакалі ў ваду з драўлянай вышкі, з разбегу, фыркалі, выплывалі і зноў ляцелі ў ваду. І так не хацелася ім пакідаць аблюбаваны бераг, нахай бы падоўжыўся гэты яркі сонечны дзень хоць на гадзінку!

Потым Віцька з сябрамі ішлі па шашэйцы ў бок Гродна і галасавалі. Іх падабралі па чарзе. Віцька з аднакласнікам Артурам разам прыехалі ў горад і, стомленыя, пабрылі да свайго дома.

— Вечарам выходзь на двор, нешта прыдумаем, — прапанаваў сябрук і, не чакаючы Віцькавага адказу, знік у сваім пад'ездзе.

«Пабачым, — падумаў хлопчык, адмыкаючы дзверы сваёй кватэры. — Невядома, што бацькі скажуць». А з другога боку, чаму не пусціць яго вечарам пагуляць? Канікулы ўсё ж такі!

Бацькі Віцькавы думалі гэтак жа, таму адпусцілі сына вечарам на вуліцу, маўляў, няхай больш часу праводзіць на свежым паветры. Праўда, узялі з яго слова, што вернецца дадому не пазней за дзесяць гадзін.

Але Віцька, хоць і быў паслухмяным хлопчыкам і стараўся не прыносіць бацькам непрыемнасцей (яго хвалілі за стараннасць і ў школе), у гэты вечар усё ж крыху затрымаўся на двары. Разышлася гурба хлопцаў па дамах, калі добра сцямнела.

Мама не спала і, калі Віцька пераступіў парог кватэры, наляцела на яго з вымоваю.

— Больш не пушчу, калі не выконваеш абяцанняў! — шэптам адчытвала яна сына. — Добра, што тата не бачыць, ён рана лёг спаць, таму што ў яго заўтра першая змена.

Не вельмі прыемна было слухаць Віцьку матуліны вымовы пасля такога цудоўнага, амаль святочнага дня, але нічога не зробіш — сам вінаваты.

Нарэшце ён паабяцаў маме ніколі больш не спазняцца і папрасіў яе не гаварыць тату пра яго начныя гулі. Затым хуценька абмыўся ў ваннай і пайшоў спаць.

## 3

Новы дзень сустрэў яго страшнай навіною: ноччу нехта спілаваў яблыню. Пад балконам сабраўся ўвесь дом. Людзі абураліся, дзед Рыгор і баба Гэля моцна плакалі і праклінаілі самымі бруднымі словамі таго невядомага злачынцу, які знішчыў такое вялікае і прыгожае дрэва. І каму яно замінала?

Віцька знямеў ад абурэння. Ён плакаў сапраўднымі слязьмі і не думаў, што хтосьці можа ўбачыць і пасмяяцца з яго. У галаве была адна толькі думка: больш не ўбачыць ён сваёй яблынькі, пра якую нават адзін раз сачыненне пісаў, у пятым класе, здаецца, тады вучыўся. Настаўніца вельмі яго хваліла за надзвычай падрабязнае і дэталёвае апісанне яблыневых лісточкаў. А як ён тыя лісточкі разглядаў! Ведаў кожную жылачку на іх зялёных далоньках.

Упершыню задумаўся Віцька гэтай раніцай пра жорсткасць чалавечую, не, хутчэй, нечалавечую. Нават калі баба і дзед насалілі каму-небудзь, хіба ж мог нармальны чалавек такое ўчыніць? Яблыня пры чым?

Доўга не сціхалі размовы пра гэтае здарэнне на вуліцы Камарова, як і не сціхаў боль у сэрцы добрага хлопчыка Віцькі. А што ўжо казаць пра дзеда і бабу? «Яны, напэўна, памруць ад гора», — шкадаваў старых хлопчык.

Пугачы сапраўды нібы зніклі. Яны амаль не выходзілі з кватэры, затаілі злосць на ўвесь свет, на ўсіх людзей. Яны прагнулі помсты. І неўзабаве яе здзейснілі.

Прайшоў добры месяц ад таго дня, як нехта злосны знішчыў яблыню. Пакрыху размовы пра гэтае здарэнне сціхлі, сцішылася боль і шкадаванне. Нязвыкла і пуста выглядаў двор каля першага пад'езда без густой, разгалістай яблыні, але і да гэтага з часам людзі прызвычаіліся.

Аднойчы вечарам Віцька вяртаўся дадому. Быў цёплы ліпеньскі дзень, настоены на шчодрым сонечным праменні і пышным разнатраўі. Гэты водар хлопчык запомніў на ўсё жыццё. Ён увайшоў у чамусьці цёмны пад'езд, пацягнуўся да сцяны, каб намацаць выключальнік і запаліць святло. І раптам гучна войкнуў ад нечаканасці: нехта моцны рэзка і балюча схапіў яго за руку, наваліўся ўсім целам і кінуў на лесвіцу. Віцька не паспеў апамятацца і хоць штосьці вымавіць, як яго пачалі біць, ламасаць яго дзіцячае цела, і тая ж моцная рука ўпілася ў яго горла. Віцька пазнаў іх — гэта былі дзед і баба Пугач.

— Ну, вось ты нам і папаўся! — нягучна шыпела баба, лупцуючы ахвяру па галаве. — Будзеш ведаць, гад, як нам паскудзіць!

— Задушу, шчаня няўпорнае! — хрыпеў дзед Рыгор.

Віцька нічога не разумеў. За што якое распраўляюцца з ім старыя? Ён хацеў крыкнуць, паклікаць на дапамогу матулю, але дыханне было перакрыта дзедавай жорсткай рукой. І толькі адчуўшы, як хлопчык неяк абмяк і заціх, дзед і баба перасталі з яго здзекавацца і зачыніліся ў сваёй кватэры.

Віцьку знайшла суседка з трэцяга паверха, цётачка Іра. Яна вярталася ад сваёй дачкі, у якой нянчыла маленькае дзіця, пакуль тая была на працы. Здзіўлена спытала, што падлетак робіць у гэты час адзін у пад'ездзе, а калі прыгледзелася лепей і заўважыла, што з хлопцам штосьці не тое, паклікала Віцькавых бацькоў. Яны забралі сына дамоў і доўга дапытвалі, прасілі расказаць, што з ім здарылася, хто яго так знявечыў? Але збянтэжаны хлопчык адно маўчаў ды цёр свае здушанае горла.

Так і не прызнаўся Віцька бацькам, не расказаў нават сястры Светцы, што з ім насамрэч адбылося. Не мог пакуль малы ўцяміць, што такое можа быць. Ды і дзеда Рыгора з бабай Гэляй баяўся цяпер панічна.

## 4

Прайшло чатыры гады. Віцька заканчваў школу, здаваў апошнія дзяржаўныя экзамены і рыхтаваўся ісці ў армію. Ён так вырашыў даўно: спачатку адслужыць тэрміновую, а потым будзе паступаць у вайсковае вучылішча. Лётчыкам хацеў стаць, як яго дзядзька Іван, родны татаў брат. Марыў усю краіну аблётаць на звышгукавых самалётах і за мяжой пабываць, калі дазволяць. Для гэтага трэба мець вельмі добрыя веды і характарыстыкі, ды і агульную фізічную падрыхтоўку. А вось тут якраз, з фізічнай падрыхтоўкай, у Віцькі была невялікая праблемка. Хваляваўся ён крыху з-за свайго горла. Ад таго самага выпадку, калі яго амаль не задушылі ненармальныя старыя Пугачы, дакучала яно хлопцу, пабольвала часам, вымушала непакоіцца. Прычына высветлілася на медыцынскай вайсковай камісіі перад самым адыходам у войска.

Віцька разам з іншымі прызыўнікамі па чарзе абходзіў дактароў. Яны ўважліва, але даволі хутка аглядалі хлопцаў, пісалі на паперцы адно слова — «годны» — і адпраўлялі да наступнага спецыяліста. І Віцька рухаўся ад доктара да доктара ў гэтым тэмпарытме. Пакуль не трапіў да оталарынголага. Доктар уважліва зазірнуў яму ў нос, агледзеў вушы і нарэшце загадаў адкрыць рот. Калі абмацваў юнакову шыю і лімфавузлы, папрасіў другі раз адкрыць рот. Цяпер ён выкарыстоўваў нейкія дадатковыя інструменты з падсвечваннем, круціў хлопца ва ўсе бакі, і па сур'ёзнасці твару доктара было відаць, што ён нечым незадаволены, нават узрушаны.

— Што ж вы, малады чалавек, такое захворванне ад нас утойваеце? Няўжо ў войска сапраўды хочацца? — усміхнуўся нейкай разгубленай і сумнай усмешкай оталарынголаг.

Віцька пачырванеў:

— Ды нічога я не ўтойваю…

— Ідзіце апранайцеся і пачакайце мяне ў калідоры, я вам усё потым раскажу, — загадаў доктар, і Віцька пакінуў пакой, дзе праходзіў медыцынскі агляд.

Праз гадзіну, калі камісія цалкам закончыла працу, Віцьку паклікалі. Доктар пасадзіў хлопца на крэсла і абвясціў, што той павінен сур'ёзна заняцца сваім здароўем, таму што ў горле яго ўтварылася пухліна. Доктар яшчэ хвілін дзесяць распытваў юнака пра тое, калі і што з ім адбылося, як ён сябе адчувае, ці можа глытаць, гаварыць і гэтак далей. Але Віцька ўжо нічога не бачыў і не чуў: словы «не годны да вайсковай службы ў мірны час» у адно імгненне перакрэслілі, знішчылі, зруйнавалі ўсе яго жыццёвыя планы. Ды што там планы — само жыццё!..

*Стасункі*

# Праменьчык Скарыны дайшоў да Азербайджана

**Неўмiручыя словы Францыска Скарыны пра «звяроў, што блукаюць у пушчы, ад нараджэння ведаюць сховы свае...», на азербайджанскую мову пераклаў знакаміты паэт Чынгіз Алі аглу. Пераклад увайшоў у кнігу «Францыск Скарына на мовах народаў свету», якая пабачыла свет у Мінску ў 2014 годзе.**

Тэма Скарыны напярэдадні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, якое Беларусь і свет будуць адзначаць у жніўні 2017 года, цікавіць, непакоіць і азербайджанскіх паэтаў. Вось і зусім нядаўна пошта прынесла ў «Літаратуру і мастацтва» верш азербайджанскай паэтэсы Камалі Абіевай «Цябе ўзгадала я, Францыск». У перакладзе на беларускую мову Юліі Алейчанка мы прапануем яго ўвазе чытачоў гэты твор.

Колькі слоў пра Камалю Абіеву, якая нарадзілася ў старажытным азербайджанскім горадзе Астара. Па адукацыі фізік. І цяпер працуе фізікам у агульнаадукацыйнай школе. Мяркуючы па тым, што азербайджанскія падручнікі фізікі выходзяць у свет з яе рэцэнзаваннем, што яна аўтар метадычных, навукова-практычных артыкулаў па прадмеце, настаўнік у асобе паэтэсы даволі талковы. Камаля — аўтар шасці паэтычных зборнікаў. Першы з іх — «У гэтым горадзе дождж». Вершы таленавітай творцы перакладзены на рускую, англійскую, узбекскую, турэцкую, а цяпер і беларускую мовы. Камаля — аўтар слоў да многіх песень, самая папулярная з іх — «Школьныя гады».

**Сяргей ШЫЧКО**

**Камаля Абіева**

## Цябе ўзгадала я, Францыск

**Прысвячаецца вялікаму сыну беларускага народа Францыску Скарыне — заснавальніку першай кніжнай друкарні ва Усходняй Еўропе**

*Змаганне цемры і святла —*
*Закон жыцця ўсюдыісны.*
*Як фенікс, вера ажыла*
*У новы ранак прамяністы.*
*Цябе ўзгадала я, Францыск, —*
*Ты як святло — знішчальнік цемры.*
*І праз стагоддзі светлы лік*
*Нам будзе знакам шчасця пэўным!*
*Пажарам дня усход гарыць —*
*Ты нібы сонца ў кожным сэрцы!*
*Крыніца ведаў зноў бруіць,*
*І літар памяці не сцерці.*

**З азербайджанскай.**
**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

# Крытэрый адзіны — сумленнасць



Фота Яўгена Пясецкага.

Перш чым сесці за пісьмовы стол, я пагартаў яго першую кнігу «Далучанасць». Пагартаў даўно прачытаныя старонкі і напрыканцы знайшоў падкрэсленыя маёй рукой радкі:

*«Будуць праходзіць новыя месяцы, мінацца гады, можа, нават атрымаецца і так, што калі-небудзь у жыцці тваім настане момант, калі перад шырынёй і значнасцю новых далягляду тое, учарашняе, амаль што дзіцячае, падасца дробязным, не вартым асаблівай увагі. Сентыментальным нават. Не спяшайцеся, аднак, паліць за сабой масты. Няхай запалка гэтай абыякавасці і раўнадушша да памяці, да ўчарашняга моцна і балюча апячэ пальцы твае, ды так, каб душа ўся ўзварухнулася, каб сорамна і ніякавата стала».*

Гэтак усхвалявана прамаўляецца пра сваю зямлю, пра свае карані і дзяцінства, з якога ў любога чалавека ўсё пачынаецца. Падумалася адразу пра многае і, вядома ж, пра нашу літаратуру, далучанасць да якой у Алеся Марціновіча даўняя. Па яго артыкулах, шматлікіх рэцэнзіях і эсэ можна скласці агульны малюнак літаратурнага працэсу. А радкі, якія цытаваліся вышэй, сведчаць: перад намі не толькі крытык, але ўдумлівы, з лірычным ухілам празаік.

Згаданая далучанасць для Алеся Марціновіча азначае перш за ўсё сумленнасць. Толькі сумленнасць дазваляе яму быць не суддзёй, а добрым суразмоўцам аўтара; дзе трэба — прадчуваць і адчуваць, падказваць, але не вучыць і не павучаць, як бывае ў крытыцы. Адзіны крытэрый, адна мерка падыходу да любога аўтара, сталага ці пачаткоўца. Ні кроплі прадузятасці і прыдзірлівасці.

Пакаленне наша з чыёйсьці лёгкай рукі назвалі філалагічным. Гучыць як папрок, што наша веданне жыцця замкнута рамкамі філфака. Але ці так гэта?.. Алесь Марціновіч наогул, павучыўшыся крыху на філфаку, пераведзены на журналістыку. У біяграфічных нататках пра яго так і запісана: «Пачынаў як журналіст». З тых жа нататак можна даведацца, што нарадзіўся ён на Случчыне, у вёсцы Казловічы, у сям'і настаўнікаў. Гэты выраз — «у сям'і настаўнікаў» — заўсёды прымушае глядзець на чалавека з асаблівай павагай, добрым даверам і прыязнасцю (зрэшты, магчыма, гэта маё асабістае стаўленне, сялянскае). Былі ў яго біяграфіі служба ў войску, работа ў раённых газетах, а пасля ўжо — у сталічных выданнях. Хоць журналістыка і не заўсёды спрые літаратуры, але ж творчы лёс многіх пісьменнікаў пачынаўся менавіта з яе.

На літаратурны абсяг Алесь Марціновіч ступаў спакваля, шмат прачытаўшы і ўзважыўшы. Верагодна, гэтаму паспрыяла работа ў газеце «Літаратура і мастацтва», куды ён прыйшоў пасля раённага друку і дзе прапісаўся на многія гады. Тут мы з ім упершыню сустрэліся і пасябравалі. Выявілася, што хоць і ў розныя гады, але «служылі» ў адной газеце — Капыльскай раёнцы. Адно гэта неяк зблізіла, дадавала даверу. Ды і таварыскасці Алесевай можна пазайздросціць: чалавек без фанабэрыі, праўдаруб.

Як крытык ён пачынаў з кароткіх водгукаў і рэцэнзій на кнігі. Праца рэцэнзента, магчыма, самая няўдзячная, але заўсёды запатрабаваная ў літаратурным выданні. Як важна тут зразумець задуму аўтара, стаць на момант яго шчырым суразмоўцам, дарадцам, умець суперажываць. Асабліва калі перад табой аўтар малады. Пакрыўдзіць безабароннага пачаткоўца вельмі проста, але гэта не той прынцып, якім павінна кіравацца крытыка. І гэта добра разумее Алесь Марціновіч. Не ўласціва яму засяроджвацца толькі на вядомых імёнах, «апрабаваных» іншымі крытыкамі, ці на так званых «сваіх».

Сёй-той, здаралася, іранізаваў: «Марціновіч напіша пра каго хочаш». На іронію адкажам праўдай: ці знойдзеце вы ў пераліку тых, пра каго пісаў Алесь Марціновіч, хоць адно выпадковае імя? Упэўнены, што не знойдзеце. Нібыта сабе самому, але і ўсім нам, чытачам, у артыкуле пра Івана Мележа ён пажадае: «Паспяшайся, браце, скажы добрае слова таму, хто яго заслужыў. Яно ні ў якім разе не будзе лішнім». Гэтае пажаданне — жыццёвы і творчы прынцып пісьменніка.

Ён шмат рабіў і робіць для вяртання забытых імёнаў, і не толькі ад літаратуры, але і ад навукі. Алесь Марціновіч добра разумее, што сёння і заўтра будзе патрэбна літаратура, якая б вярtала нам гістарычную памяць, бо нельга будаваць будучыню, не ўсведамляючы вытокаў. Ад вялікіх рэк заўсёды трэба вяртацца да першакрыніц.

Сёння яму зацесна ў межах адной толькі крытыкі і літаратуразнаўства. Ён даўно паказаў сябе як празаік, перакладчык, аўтар змястоўных і пазнавальных кніг для дзяцей і юнацтва. Калі ўсё, створанае ім, пералічваць, спіс атрымаецца даволі ўнушальны. Я не бяруся сцвярджаць, што ўсё, што выйшла з-пад яго пяра, вядома шырокаму чытачу. І ўсё ж імя сённяшняга юбіляра Алеся Марціновіча ў літаратурным свеце вядомае. Нездарма яго старанні адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, прэміяй «Залаты Купідон». Але галоўнае, што пісьменнік далучаны да жыцця сваёй нястомнай штодзённай працай.

…Рэдакцыйны пакой у часопісе «Полымя», дзе працуе Алесь Марціновіч, заўсёды разнасцежаны. Але я зноў заходжу сюды не таму, што нельга прамінуць шырока расчыненыя дзверы, а таму, што спадзяюся пачуць ад яго навіну, цікавае меркаванне, а то і параду. Здаецца, няма той таямніцы, якую б не ведаў Алесь Андрэевіч. «Вялюгін ведае ўсё!» — казалі некалі пра слыннага паэта. Сёння я тое ж самае магу сказаць пра Алеся Марціновіча. Больш дасведчанага чалавека сярод сваіх калег я не ведаю.

Ці мала было ў нас сумесных сустрэч і дарог!.. Шчыра прызнаюся, з ім цікава і на працы, і ў дарозе. Любіць досціп і добры жарт, нават калі сядзіць за манітарам камп'ютара. А без камп'ютара, як і без кнігі, мне яго цяжка ўявіць. Яго працавітасць, няўседлівасць і творчая нястомнасць заўсёды здзіўлялі мяне. Хай жа гэтыя цудоўныя якасці яшчэ доўга собяць у яго разнастайным і насычаным жыцці!

**Казімір КАМЕЙША**

## Даведка «ЛіМа»:

Алесь Марціновіч — аўтар звыш 30 кніг, большасць з якіх прысвечана знакавым асобам беларускай літаратуры, гісторыі, у цэлым — культурным дзеячам Беларусі. Немалая доля гэтых работ адрасуецца дзецям і падлеткам.

Напрыклад, выданні па гісторыі для юных чытачоў знаёмяць з дзейнасцю і жыццём Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Сімяона Полацкага... Працуючы для гэтай аўдыторыі, Алесь Марціновіч не абмяжоўваецца публіцыстыкай, а выступае і ў мастацкай літаратуры, пішучы казкі і апавяданні («Віця Неслух у краіне Мурашоў», «Кот, які сябраваў з камп'ютарам»). Цікава, што не так даўно ён выдаў нават гісторыка-прыгодніцкі раман, прыгода, для больш сталага чытача: «Гарачае сонца Эфіопіі» распавядае пра Аляксандра Булатовіча, аднаго з першаадкрывальнікаў афрыканскай краіны, які яшчэ пры жыцці стаў легендай і згадваецца ў «Дванаццаці крэслах» Ільфа і Пятрова.

Аднак мастацкія творы для Алеся Марціновіча хутчэй выключэнне, рэдкі падарунак сабе самому. Асноўнае поле дзейнасці для яго, безумоўна, публіцыстыка. Дзве тэмы кіруюць ім у няспынных даследаваннях — гісторыя Беларусі і літаратура. Вядома, часта яны перасякаюцца, становяцца адной непадзельнай тэмай. Калі казаць пра школьную аўдыторыю, мы мусім згадаць зборнік нарысаў «Свяці, зорка, свяці: Дзецям пра Максіма Багдановіча», работу пра Максіма Гарэцкага, зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ «Дзе ж ты, храм праўды?». У той жа час Алесь Марціновіч працуе для настаўнікаў — рыхтуе кнігі выбранага, як у зборніку артыкулаў «Шляхам праўды: Выбраныя старонкі беларускай літаратуры ў святле сённяшняга дня».

Найвышэйшым творчым дасягненнем Алеся Марціновіча лічыцца шматтомная гісторыя Беларусі ў асобах — улюбёны жанр аўтара. Серыя ўключае ў сябе дзевяць кніг («Зерне да зерня», «Хто мы, адкуль мы…», «Элегіі забытых дарог» і інш.) і ахоплівае час работы ад 1996 да 2010 года. Спалучыўшы мастацкае і дакументальнае, аўтар праз эсэ, нарысы і апавяданні распавёў пра больш як трохсот слынных асоб Беларусі і тых, хто звязаў з нашай краінай свой лёс. Напрыклад, «Маладзік над заснежаным шляхам» распавядае пра Алену Глінскую і Івана Фёдарава, князскіх дачок Альдону Гедымінаўну і Соф'ю Вітаўтаўну, а таксама пра генерал-пракурора Ягужынскага, беларуса, які трапіў у прыдворную знаць Кацярыны І. Падбор персаналій, дый іх колькасць, сведчыць пра вялікую падрыхтоўчую работу аўтара.

Да таго ж Алесь Марціновіч выступае як краязнаўца. Рэгіёнам прысвечаны такія кнігі, як «Памяць: Капыльскі раён», літаратурны зборнік Шклоўшчыны, нарысы пра Гродна і Белавежскую пушчу.

# ІНСТРУКЦЫЯ
## аб парадку правядзення конкурсу маладых літаратараў «Першацвет»

1. Дадзеная інструкцыя вызначае парадак арганізацыі і правядзення конкурсу маладых літаратараў «Першацвет» (далей — конкурс).

2. Мэтамі правядзення конкурсу з'яўляюцца:

- рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі ў сферы выдавецкай дзейнасці;
- адкрыццё новых аўтараў у літаратуры;
- стымуляванне прафесійнага і мастацка-стылістычнага патэнцыялу маладых аўтараў;
- прадастаўленне маладым аўтарам магчымасці першай публікацыі;
- папулярызацыя кнігі і чытання ў грамадстве.

3. Конкурс праводзіцца штогод.

4. Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» (далей — арганізатары конкурсу).

5. Інфармацыя аб правядзенні конкурсу размяшчаецца ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт на афіцыйных сайтах арганізатараў конкурсу. Інфармацыя павінна ўтрымліваць звесткі аб часе, месцы правядзення конкурсу, умовах конкурсу, крытэрыях і парадку ацэнкі твораў удзельнікаў, парадку і тэрмінах аб'яўлення вынікаў конкурсу, формах узнагароджання, а таксама іншыя неабходныя звесткі.

6. У конкурсе могуць прымаць удзел грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў уключна на момант падачы заяўкі (далей — удзельнікі конкурсу).

7. На конкурс прымаюцца паэтычныя і празаічныя творы (далей, калі не ўказана іншае, — творы), якія не публікаваліся раней і не ўдзельнічалі ў іншых конкурсах.

Аб'ём твора не павінен перавышаць трох аўтарскіх лістоў.

Кожны ўдзельнік конкурсу мае права накіраваць толькі адзін твор на рускай або беларускай мове.

Прадстаўляючы твор на конкурс, удзельнік конкурсу дае згоду на аднаразовае бязвыплатнае выкарыстанне твора ў друкаваных сродках масавай інфармацыі літаратурна-мастацкай тэматыкі (спецыялізацыі).

8. Заяўка на ўдзел у конкурсе запаўняецца па форме, згодна з дадаткам да дадзенай інструкцыі.

Разам з заяўкай удзельнік конкурсу накіроўвае:

- кароткую біяграфічную даведку;
- фотаздымак удзельніка конкурсу ў фармаце *jpg (jpeg)*;
- твор, афармлены ў рэдактары *Microsoft Word* у фармаце *doc*, шрыфт *Times New Roman*, памер шрыфта 14, міжрадковы інтэрвал 1,5, усе палі 2,5 см.

На тытульным лісце твора неабходна ўказаць: прозвішча, уласнае імя, імя па бацьку (калі такое ёсць) удзельніка конкурсу, псеўданім (калі такі ёсць), назву твора.

Матэрыялы прымаюцца на конкурс у электронным выглядзе па наступным адрасе электроннай пошты: *projects.zviazda@gmail.com.*

Прыём заявак для ўдзелу ў конкурсе і твораў праводзіцца штогод з 1 сакавіка па 30 кастрычніка ўключна.

9. Матэрыялы, прадстаўленыя з парушэннем патрабаванняў, указаных у пункце 8 дадзенай інструкцыі, да разгляду не прымаюцца.

10. Расходы, звязаныя з падрыхтоўкай і прадстаўленнем матэрыялаў на конкурс, аплачваюцца яго ўдзельнікамі самастойна.

11. Творы, якія паступілі на конкурс, не рэцэнзуюцца, не вяртаюцца і не падлягаюць аплаце.

12. Для ацэнкі твораў удзельнікаў конкурсу ствараецца экспертны савет у колькасці васьмі чалавек. Склад экспертнага савета зацвярджаецца Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Склад экспертнага савета фарміруецца з прадстаўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання, творчых саюзаў, арганізацый, якія ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць, юрыдычных асоб, на якіх ускладзены функцыі рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі.

У склад экспертнага савета не могуць уваходзіць аўтары твораў, якія ўдзельнічаюць у конкурсе.

Экспертны савет узначальвае старшыня.

13. Пасяджэнне экспертнага савета лічыцца правамоцным, калі ў ім прымае ўдзел не менш як дзве трэці членаў экспертнага савета.

У спрэчных выпадках рашаючым з'яўляецца голас старшыні экспертнага савета.

Ацэнка твораў удзельнікаў конкурсу ажыццяўляецца па дзесяцібальнай сістэме ацэнкі.

14. Пры ацэнцы твораў, якія паступілі на конкурс, членамі экспертнага савета ўлічваюцца:

- літаратурны змест;
- стылістычнае і моўнае майстэрства;
- арыгінальнасць вобразнай сістэмы твора;
- пісьменнасць.

15. Аўтары дзесяці паэтычных і дзесяці празаічных твораў, якія набралі найбольшую колькасць балаў, прызнаюцца экспертным саветам пераможцамі конкурсу.

Рашэнне аб пераможцах конкурсу афармляецца пратаколам.

Спіс пераможцаў конкурсу і назвы іх твораў размяшчаюцца ў глабальнай камп'ютарнай сетцы інтэрнэт на афіцыйных сайтах арганізатараў конкурсу.

Вынікі конкурсу падводзяцца штогод да 1 лютага.

16. Пераможцам конкурсу ўручаюцца дыпломы.

Творы пераможцаў конкурсу публікуюцца ў сродках масавай інфармацыі літаратурна-мастацкай тэматыкі (спецыялізацыі).

Дыпломы ўручаюцца пераможцам конкурсу ва ўрачыстай атмасферы на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы.

ЗАЯЎКА
**на ўдзел у конкурсе маладых літаратараў «Першацвет»**

1. Прозвішча ______
2. Уласнае імя ______
3. Імя па бацьку (калі такое ёсць) ______
4. Псеўданім (калі такі ёсць) ______
5. Дата нараджэння ______
6. Назва твора ______
7. Хатні адрас удзельніка конкурсу ______
8. Месца вучобы (работы) удзельніка конкурсу ______
9. Тэлефон удзельніка конкурсу ______
10. Электронны адрас удзельніка конкурсу ______

______
(дата)

# Вясна прозы і паэзіі

Конкурс не можа нарадзіць талент. Але падтрымаць таленавітага пачаткоўца, дапамагчы яму паверыць у сябе і, што найбольш важна, даць загучаць яго дару, выявіцца і дайсці да чытача — усё гэта, несумненна, значна для развіцця мастацтва ў краіне. Чарговай годнай справай у Год культуры сталася арганізацыя літаратурнага конкурсу для моладзі «Першацвет». Арганізатарамі яго выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, «Выдавецкі дом "Звязда"» і выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» пісьменнік Алесь Бадак распавёў карэспандэнту «ЛіМа»:**

— Ідэя ўпершыню прагучала на сустрэчы прэзідэнта з творчай інтэлігенцыяй у кастрычніку 2014 года. Далейшая ініцыятыва перайшла да Міністэрства інфармацыі. Мяркую, не выпадкова, што арганізатарамі конкурсу сталі і «Выдавецкі дом "Звязда"», і «Мастацкая літаратура», паколькі ў нас ёсць багаты досвед працы з моладдзю. Некалькі гадоў таму ў «Звяздзе» выйшаў вельмі аб'ёмны паэтычны зборнік «Мы — маладыя», шмат робіцца для падтрымкі пачаткоўцаў часопісы «Маладосць» і «Бярозка». Ды і «Полымя», «Нёман», «ЛіМ» часта друкуюць тых, хто знаходзіцца толькі на пачатку творчага шляху. Што да «Мастацкай літаратуры», то творы маладых аўтараў можна нярэдка сустрэць у нашых серыйных калектыўных зборніках. Летась, напрыклад, выйшла кніга «Мой дзень пачынаецца», у якой былі прадстаўлены творы 46 маладых беларускіх аўтараў.

**— Назва конкурсу — адсылка да колішняга часопіса?**

— Адносна. У свой час часопіс «Першацвет» шмат зрабіў для папулярызацыі творчасці маладых аўтараў, але ж мы не ўзнаўляем перыядычнае выданне, а праводзім конкурс — гэта крыху розныя рэчы. Гэтаксама, як калі б конкурс называўся «Крыніца», то наўрад ці трэба было б шукаць нейкія паралелі з аднайменным выданнем, якое было вельмі папулярным у маладзёжным асяродку канца 80-х.

**— У мэтах конкурсу пазначаецца «рэалізацыя дзяржаўнай палітыкі ў сферы выдавецкай дзейнасці». Гэта значыць, па выніках конкурсу будзе рыхтавацца зборнік з творамі пераможцаў? Ці паасобныя кнігі?**

— Так, будзе выдадзены зборнік твораў пераможцаў з яго далейшымі шырокімі прэзентацыямі — і на кніжнай выстаўцы, і ў розных установах — з удзелам аўтараў. Каб імёны пераможцаў загучалі больш шырока, каб пра іх даведаліся і ў бібліятэках, і ў навучальных установах. Што да паасобных кніг, то калі будуць выяўлены вельмі цікавыя аўтары, то, безумоўна, у іх на тое будуць усе шансы.

**— Арганізатары плануюць зрабіць конкурс традыцыйным, стала ўпісаць у літаратурны працэс?**

— Так, конкурс будзе праводзіцца штогод з падвядзеннем вынікаў у лістападзе. Такім чынам, у нас з'явіцца магчымасць выдаць кнігу да кніжнай выстаўкі. Летась, дарэчы, на Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ўпершыню праходзіў міжнародны семінар маладых літаратараў, які таксама плануецца зрабіць традыцыйным. Я думаю, пераможцы «Першацвета» стануць яго самымі актыўнымі ўдзельнікамі.

**— Ці можна разглядаць з'яўленне «Першацвета» для пачаткоўцаў аналагам «дарослай» Нацыянальнай літаратурнай прэміі?**

— Не зусім. У конкурсе маладых могуць удзельнічаць паэты ці празаікі, у Нацыянальнай прэміі літаратурныя жанры прадстаўлены больш шырока. Тым не менш адна з намінацый Нацыянальнай літаратурнай прэміі — гэта «Дэбют», таму ў пераможцаў «Першацвета» ёсць усе шансы пазмагацца за яе.

**— Якія вы асабіста ўскладаеце надзеі на новы літаратурны конкурс для моладзі?**


Фота Кастуся Дробава.
Алесь Бадак.

— Я спадзяюся, што ён дапаможа сапраўды таленавітым, перспектыўным аўтарам больш шырока заявіць пра сябе. На пачатковым этапе жыцця ў літаратуры гэта вельмі важна, асабліва сёння, калі кніжны рынак надзвычай насычаны. Ну, а многіх, спадзяюся, прымусіць задумацца, што літаратурная праца вельмі цяжкая, складаная, што тут надзвычай важна знайсці свой голас, каб не згубіцца ў агульным хоры.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# ЖНІВЕНЬСКАЯ АРТ-ЭКСКУРСІЯ

**Напрыканцы лета мастацкія галерэі і музеі Мінска хоць і працуюць не так актыўна, як на пачатку, але ж па-ранейшаму імкнуцца рыхтаваць для гараджан праекты на любы густ:**

## ГАЛЕРЭЯ «РАКУРС» НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ

1 Звычайна ў жніўні мастакі пачынаюць сумаваць па леце, якое нават не скончылася, але ж развітанне набліжаецца, і тады творцаў натхняе рамантыка, разнастайнасць колеравай гамы, якая стварае святочны настрой, стымулюе да актыўнага ладу жыцця. Менавіта такая атмасфера прадстаўлена на палотнах творцаў, якія ўзялі ўдзел у выстаўцы «Лета ў правінцыі», арганізаванай у выніку арт-пленэра, назва якога штогод мяняецца.



*Твор Алены Фаставец.*

«Лета ў правінцыі» з'яўляецца доўгатэрміновым праектам, які пачаўся ў 2012 годзе. Сёлета ў ім удзельнічалі выкладчыкі школ мастацтваў, мастацкіх студый Беларусі, Расіі і Казахстана. Штогод выстаўка становіцца своеасаблівай справаздачай, якая адлюстроўвае кірунак і тэматыку аўтарскіх кампазіцый. Калі ў мінулых гадах аўтары прысвячалі творы беларускім гістарычным месцам, вясковым людзям, іх быту, хатнім традыцыям, то сёлета яны звярнуліся да чыстых вытокаў, прысвяціўшы творы азёрам ды рэкам Смалявіччыны.

У выніку 5-га юбілейнага арт-пленэра на выстаўцы экспануецца каля пяцідзесяці мастацкіх твораў, выкананых у розных тэхніках і з розных матэрыялаў. Жывапісныя палотны, нібы люстра, дэманструюць гледачам родную прыроду з акцэнтам на тое, што яна адна з самых вялікіх каштоўнасцей беларускага народа.

## ГАЛЕРЭЯ «ЛАБІРЫНТ» НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ

2 «Гонка легенд — 2015» — унікальны фестываль сусветнага ўзроўню, у якім узялі ўдзел легендарныя біятланісты. У 2015 годзе яны прынялі запрашэнне ад Дар'і Домрачавай паспаборнічаць на беларускай зямлі.

На мінулым тыдні ў галерэі «Лабірынт» быў адкрыты фотапраект «Гонка легенд — 2015. Як гэта было», што ўяўляе сабой хроніку важкіх, складаных перамог, захаваных на здымках прафесійных беларускіх і расійскіх фатографаў падчас спаборніцтваў. У аб'ектыў камеры трапілі такія знакамітыя спартсмены,



*Фота Дзяніса Касцючэнкі.*

*Трохразовая алімпійская чэмпіёнка Дар'я Домрачава аб'яўляе «Гонку легенд — 2015» адкрытай.*

як трохразовая алімпійская чэмпіёнка, двухразовая чэмпіёнка свету Дар'я Домрачава, шматразовыя алімпійскія чэмпіёны Свэн Фішар, Рыка Грос і Міхаэль Грайс, чэмпіёнка свету Сімона Хаўсвальд, трохразовы алімпійскі чэмпіён Хальвард Ханевальд і іншыя.

Фотаздымкі экспазіцыі цікавыя нават не па храналагічным аспекце. Яны прываблююць эмацыянальнасцю, якая ў спорце заўсёды моцная, кранальная. У выставачнай зале адчуваецца энергетыка і дух самых знакамітых біятланістаў свету, што надае экспазіцыі адметнасць, асаблівую атмасферу.

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

3 Пра «Лічбы на сэрцы» зноў нагадвае нам народны мастак Беларусі Міхаіл Савіцкі. Серыя з 16 карцін, прадстаўленых у музеі, паказвае асаблівы этап у творчасці майстра. Ён ствараў яе для моладзі, якая нарадзілася пасля вайны. На палотнах — вобраз фашызму, злавесны і праўдзівы. Але разам з тым вобраз земляка, чалавека моцнага, нескаронага, які не страціў надзею. «Мадонна Біркенау», «Танец з факеламі», «SOS!», «Спяваючыя коні», «Уцёкі», «Свабода», «Вязень 32815», «Этэрсберг — Галгофа ХХ стагоддзя» — няпоўны спіс вострых, неадназначных шэдэўраў.



*Міхаіл Савіцкі. «Мадонна Біркенау».*

У Міхаіла Савіцкага, які ў поўнай меры выкарыстоўвае магчымасці жывапісу, атрымліваецца быць тонкім псіхааналітыкам. Ён уздзейнічае наўпрост, праз сэрца, абуджаючы эмоцыі і пачуцці. Гледзячы на карціны, з аднаго боку, перажываеш тыя страшныя падзеі, з другога — радуешся, што жывеш у мірны час. Рэальныя моманты і асабістыя адчуванні мастака ўзмацняюць эфект. Міхаіл Савіцкі быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, разам з легендарнымі абаронцамі Севастопаля змагаўся да ліпеня 1942 года. Трапіў у канцлагер Дзюсельдорф, затым у Бухенвальд, збег, апынуўся ў Дахау, адкуль яго вызвалілі амерыканскія войскі. Вязня № 32815 знайшлі беспрытомным... Толькі ў 1946 годзе ён змог паступіць у Мінскае мастацкае вучылішча, прайшоўшы яшчэ і праз НКУС. Ці трэба гаварыць, чаму тэма вайны, выпрабаванняў і барацьбы дабрыні са злом стала галоўнай у яго творчасці? Не, бо гэтыя карціны проста трэба ўбачыць і адчуць.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СУЧАСНЫХ МАСТАЦТВАЎ

4 Калектыўныя выстаўкі часта нагадваюць лабірынт, у якім можна хадзіць гадзінамі і ў кожнай зале адкрываць для сябе новы сусвет. Такой стала «Адысея», куды ўвайшлі работы беларускіх фотамастакоў. Кампанія сабралася вялікая, вядомая — Альберт Цэхановіч і Марына Бацюкова, Марыя Банэ і Андрэй Васкрасенскі, Кацярына Гуртавая, Наталля Яўмененка, Вольга Сяргеева і Ганна Зіміна. Што іх аб'ядноўвае? Мінская школа фатаграфіі і выкарыстанне старадаўніх, класічных метадаў стварэння здымкаў, чорна-белых, так званыя альтэрнатыўныя спосабы «друку». Менавіта таму выстаўка стварае адчуванне падарожжа ў часе, а ў цэнтры яе — эпічная паэма Гамера і філасофскі «Уліс» Дж. Джойса. Інтэрпрэтацыі свабодныя, бо гэта мастакі, і кожны робіць, як бачыць.



*Твор Андрэя Васкрасенскага.*

Углядаючыся ў здымкі, як быццам рассякаеш глыбіні акіяна, сутыкаешся з загадкавымі істотамі, трапляеш у вір стыхіі ці, наадварот, застываеш ад відовішча. Спалучэнне класікі (у метадах) і постмадэрнізму (у трактоўцы) стварае прыемны эстэтычны выбух. У працах пераплятаюцца лініі-імпульсы, фрагменты антычных будынкаў, прыроды, у іх уклiньваецца сучаснасць, марскія абрысы, істоты, якія жывуць самі па сабе.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СУЧАСНЫХ МАСТАЦТВАЎ

5 Традыцыйны, але вельмі прыцягальны жывапіс, што распавядае пра прыгажосць беларускай прыроды, можна пабачыць на выстаўцы «Ландшафт». Унікальныя вобразы свайго краю прадставілі некалькі аўтараў. Водныя прасторы і зялёная пышнасць лясоў, блакітнае неба ў белым покрыве з аблокаў, ружовыя жнівеньскія палі — рамантыка і супакаенне. Ландшафт у дадзеным выпадку ўключае ўсё, што ўваходзіць у паняцце «навакольная мясцовасць», а значыць — аспекпі архітэктуры і прадметы побыту, жывёл і, зразумела ж, чалавека. Пейзажы цікавыя яшчэ і тым, што выкананы ў зусім розных стылях — знакамітым «суровым», лірычным і абстрактным, падобным да геаметрыі. Сярод прадстаўленых карцін — сюжэтна-тэматычная кампазіцыі Гаўрыіла Вашчанкі і Уладзіміра Тоўсціка, каларыстычныя эксперыменты Мікалая Бушчыка і Аляксандра Салаўёва, экспрэсіўныя матывы Сяргея Балянка і Сяргея Пілата.



*Вашчанка Г. Х. «Прадчуванне». 1990 г.*

Марыя ВОЙЦІК, Вікторыя АСКЕРА

# Падтрымаць = уратаваць

**Калі мы глядзім фільм, то вельмі рэдка ці наогул ніколі не задумваемся пра тое, хто аўтар стужкі, хто аператар, на якія сродкі кіно знята. Магчыма, такія пытанні мы пачынаем задаваць сабе толькі тады, калі зацікавіліся ўбачаным. Цяпер зацікаўленых вельмі шмат, і яны нават гатовыя выдаткоўваць на здымкі ўласныя грошы.**

## ЛЮБЫ КАПРЫЗ ЗА ВАШЫ ГРОШЫ

У ліпені выйшла стужка Віктара Красоўскага «Душы мёртвыя». Яна цікавая не толькі сваім сюжэтам і героямі, але і гісторыяй стварэння. Кіно пра беларускае прадпрыемства, на якім працуюць людзі з інваліднасцю, здымалася ўсяго 2 дні і адным планам. Здавалася б, якія цяжкасці могуць быць з такой стужкай? Выдаткаў павінна быць не шмат. Але калі дакапацца да сутнасці кінематаграфічнай кухні, то давядзецца даведацца, што кожнаму фільму патрэбен постпрадакшн — агучванне, запіс музыкі, карэкцыя колераў. То бок, усё тое, што робіць стужку прывабнай для гледача. Віктар Красоўскі паспрабаваў знайсці грошы на фінальны этап працы над фільмам з дапамогай свайго ж гледача.

Цяпер такім відам спонсарства амаль нікога не здзівіць — краўдфандынг (а менавіта так называецца гэтая з'ява) стаў да такой ступені папулярным, што ім карыстаюцца для фінансавання абсалютна розных праектаў — ад прамысловасці да мастацтва.

Увогуле краўдфандынг — паняцце досыць новае. Толькі ў 2009 годзе з'явілася першая амерыканская платформа *Kickstarter*, але лічыцца, што ідэя прапанoўваць людзям плаціць за тое, што яны хочуць убачыць, даволі старая — напрыклад, фундамент Статуі Свабоды ствараўся менавіта на грошы грамадзян Амерыкі. Тое ж самае можна сказаць і пра Нацыянальную бібліятэку Беларусі: кожны з нас так ці інакш паўдзельнічаў у фінансаванні праекта.

Краўдфандынг — гэта не проста грашовыя зборы, але і далучэнне людзей да нейкай ідэі, да працэсу. Як правіла, спонсары праектаў атрымліваюць і нешта наўзамен — калі справа тычыцца фільмаў, то гэта можа быць нават эпізадычная роля.

Для рэжысёра краўдфандынг — гэта не толькі выдатны спосаб знайсці грошы, але і магчымасць прарэкламаваць стужку. Людзі, якія дапамагаюць сабраць грошы на кіно, аўтаматычна становяцца яго фанатамі: стужкі яшчэ няма, а аўдыторыя ў яе ўжо ёсць! Інакш як растлумачыць неверагодны поспех некаторых фільмаў?

## КАМУ ПАТРЭБНА СВАЁ?

Самы вядомы прыклад — стужка фінскага рэжысёра «Жалезнае неба», якая сабрала 1,5$ млн ахвяраванняў ад гледачоў. Ці гэта не доказ таго, што краўдфандынг — неверагодная магчымасць для рэжысёраў, асабліва айчынных, улічваючы, што кіно з кожным годам фінансуецца ўсё менш, а людзям хочацца бачыць айчынныя стужкі? Яшчэ адзін прыклад — «ГараШ» Андрэя Курэйчыка, які таксама прафінансавалі гледачы. Неўзабаве пасля выхаду фільм стаў карыстацца папулярнасцю і яго паказвалі ў кінатэатрах.

Але няўжо беларусы да такой ступені зацікаўлены ў развіцці нашага кінематографа, што гатовы выдаткоўваць на яго ўласныя сродкі? Практыка паказвае, што так і ёсць.

Зараз на беларускай платформе *Talaka.by* ідзе збор сродкаў на экранізацыю твора Васіля Быкава «Народны мсціўсь». Гэта будзе кіно пра БССР на мяжы 50 — 60-х гадоў. Кіно, дзе аўтар абяцае ўзняць важныя агульначалавечыя і агульнабеларускія тэмы — такія ж самыя, што ўзнімае ў сваіх творах Быкаў. І працэс ідзе досыць паспяхова — рэжысёр Аляксандр Меліхавец сабраў ужо 26% сумы за паўмесяца:

— Наш глядач не проста зацікаўлены ў беларускім кіно. Я лічу, што ён такое кіно даўно і безнадзейна чакае. Ёсць пэўная частка гледачоў, якія з задавальненнем паглядзяць фільм беларускі па тэматыцы і на беларускай мове. Асабіста я даўно хацеў экранізаваць Быкава і пэўным чынам рухаўся ў гэтым кірунку. Краўдфандынг ніколі не разглядаў як нейкае сур'ёзнае фінансаванне, але вырашыў паспрабаваць: Быкаў усё ж асоба знакавая для беларусаў як нацыі.

Кіно — галіна, якая патрабуе выдаткаў. На тое, каб зняць добрую, якасную стужку, колькасць грошай патрабуецца вялікая. Што тычыцца малабюджэтнага кіно, якое, як прадэманстравала стужка



Кадр з фільма «Душы мёртвыя».

«ГараШ», можа быць папулярным, то, тым не менш, без грошай яно не ствараецца. Аляксандр Меліхавец, як і іншыя рэжысёры, якія выкарыстоўваюць краўдфандынг, на поўнае пакрыццё выдаткаў не спадзяецца:

— Што тычыцца грошай, канечне, заяўленая на платформе сума — гэта смешны бюджэт. Што б там ні казалі, а большыя фінансавыя магчымасці станоўча ўплываюць на якасць фільма, прынамсі, тэхнічную. Падобнае фінансаванне магло б стаць добрым падмуркам для любой справы, якую з розных прычын не можа зрабіць дзяржава.

## ПЛАЦІЦЬ ЗА ТОЕ, ШТО ХОЧАШ УБАЧЫЦЬ

Краўдфандынг, як бы там ні было, рэч вельмі непрадказальная. Рэжысёр не можа ведаць дакладна, колькі грошай ён збярэ і ці збярэ наогул. Гэта свайго роду латарэя — ідуць сюды толькі самыя аптымістычныя і азартныя.

У сакавіку беларусы змаглі пазнаёміцца з кароткаметражнай стужкай Яўгена Лыткіна «Ро і Дж». На кіно пра каханне сродкі збіралі таксама праз краўд-платформу. «Фінансаванне натоўпам» (як перакладаецца тэрмін краўдфандынг) дапамагло, і хутка рэжысёр прадставіў гатовую работу:

— Мы прынцыпова не хацелі ўкладаць свае грошы ў фільм, бо гэта б значыла, што ён патрэбны толькі нам. Мы вырашылі, што калі зможам зацікавіць кагосьці яшчэ, то робім усё правільна. Адным з варыянтаў знайсці «не свае» грошы якраз і стаў краўдфандынг. Але гэта ж не толькі грошы, але і дапамога людзей чымсьці нематэрыяльным. На платформе мы знайшлі не толькі спонсараў, але і сяброў.

Яўген прызнаецца, што не чакаў атрымаць ад людзей столькі бескарыслівай дапамогі, таму сам задаваў сваім «спонсарам» пытанні: «А навошта вам гэта трэба? Навошта пераводзіць уласныя грошы на праекты фільмаў?». Адна сям'я стала спонсарам, бо кожны месяц яны камусьці дапамагаюць, а тут яшчэ і двайная карысць — не толькі фінансаванне, але і падтрымка айчыннага кінематографа. Некаторыя пазнавалі акцёраў, чые працы ім да гэтага спадабаліся, таму вырашылі «ўкласціся» і ў наступны фільм. А хтосьці пакрыўдзіўся на тое, што за столькі гадоў у беларускай кінаіндустрыі амаль нічога не змянілася — здымаюць толькі пра вайну, а пра мірнае жыццё чамусьці забываюцца.

«Спонсары» Лыткіна казалі: «Нам не хапае добрага кіно». За добрае кіно яны гатовы самі заплаціць. Але фільмы ў выніку атрымліваюцца малабюджэтныя, таму невядома, ці гатовы глядач, што гэта будзе ўсё ж менш глянцавае кіно, зробленае зусім не ў стылі галівудскіх стужак? Але і малабюджэтнае кіно мае правa на жыццё і можа быць добрым. У гэтым перакананы рэжысёр «Ро і Дж» Яўген Лыткін:

— Часта ў нашай краіне кароткаметражныя фільмы не малабюджэтныя, а безбюджэтныя. Я лічу, гэта не вельмі добра. Здымачная група павінна на нейкія сродкі існаваць. Я не ведаю ніякіх фондаў, дзе я атрымаў бы фінансавую падтрымку для кіно. Гэта не такія вялікія грошы, але яны моцна дапамаглі б развіццю кінематографа ў Беларусі. Ды і ўвогуле — калі табе даюць грошы на фільм, то паяўляецца пэўная адказнасць: не зробіш яго ты ўжо не можаш.

## ВЫРАТАВАЛЬНЫЯ ПЛАТФОРМЫ

У Беларусі ствараць кіно сіламі грамадства было не прынята. Некаторыя рэжысёры лічаць, што без гэтага выратаваць незалежны беларускі кінематограф проста немагчыма. Можа, сёння краўдфандынг для беларусаў не самая папулярная з'ява, але мы бачым, што зацікаўленасць аўдыторыі толькі павялічваецца. Усё ж такі, калі мы хочам кіно пра нас, то самі павінны сабе ў гэтым дапамагаць.

У Беларусі ёсць два добрыя прыклады краўд-платформ — *Ulej.by* і *Talaka.by*. Абедзве сёння лічацца аднолькава паспяховымі — 40% праектаў, якія выстаўляюцца на рэсурсах, атрымліваюць неабходныя для фінансавання грошы. Галоўнае — зацікавіць аўдыторыю, паказаць ёй, на што яна выдаткоўвае сродкі і што атрымае ў выніку.

Згодна са статыстыкай, лепш за ўсё на беларускіх платформах фінансуюцца праекты сацыяльныя, літаратурныя (напрыклад, дадатак для *iPhone* з беларускімі казкамі), гарадскія. Пасля ідзе і мастацтва кіно, і тэатральнае (калі былі сабраны сродкі для пастаноўкі п'есы «Опіум»).

Іван Вядзенін, крэатыўны дырэктар пляцоўкі *Talaka.by*, кажа, што звышмэта іх працы — «рабіць Беларусь лепшай»:

— Платформа задумвалася як месца сустрэчы неабыякавых людзей, якія развіваюць нашу краіну ва ўсіх магчымых аспектах: у культурным плане (бо для нас важныя нацыянальная мова і культура), у тэхналогіях, у сацыяльным плане, у экалогіі. Пры гэтым такая звышмэта мае цалкам асабістую зацікаўленасць: жаданне жыць у сучаснай і камфортнай краіне. Для мяне гэта натуральнае імкненне — уладкаваць сваю краіну для сябе. Вядома, задача вельмі амбіцыйная і складаная ў дасягненні, але выдатна, калі твая праца мае глабальны сэнс.

Эдуард Бабарыка, дырэктар па развіцці платформы *Ulej.by*, лічыць, што краўдфандынг стварае новую мадэль грамадства — такую, дзе любыя амбіцыйныя задачы вырашаюцца сілай супольнасці без падтрымкі дзяржавы ці спонсараў:

— Краўдфандынг — гэта новы вобраз мыслення, які сцірае мяжу паміж ідэяй і яе ўвасабленнем. *Ulej.by* імкнецца да новай мадэлі грамадства, у якім усё напоўнена ініцыятывай і творчасцю.

Падтрымліваць айчынны кінематограф цяпер можа кожны з нас. Напрыклад, зараз на платформе *Ulej.by* ідзе збор сродкаў на новую стужку Андрэя Курэйчыка.

## НАВОШТА ПЛАЦІЦЬ ДВОЙЧЫ?

Іван Вядзенін бачыць у падтрымцы кіно ўнёсак у развіццё краіны, таму *Talaka.by* заўсёды згодна дапамагчы айчынным рэжысёрам. Часам платформа робіць незвычайныя рэчы: напрыклад, падтрымка стужкі Яўгена Лыткіна «Ро і Дж» адгукнулася там, дзе яе ствaральнікі і не чакалі. На адным з выступленняў прадстаўнікоў платформы школьнікі пачалі гаварыць, што для іх падтрымка кіно — свайго роду прыклад, і яны самі цяпер хочуць здымаць фільмы:

— Тэхналогіі, якія дае кожнаму наша платформа, дапамагаюць ствараць прадукты накшталт кіно практычна з нулявым стартавым капіталам. Людзі, рэсурсы, грошы і сувязі могуць знайсціся па ходзе, калі аўтар праекта і яго каманда нацэлены на поспех. Зараз стан кінаіндустрыі такі, што любы фільм, які зняты незалежна (нават калі гэта кароткаметражка), — дапамога айчыннаму кінематографу.

Чалавеку, які да кіно ставіцца абыякава, збор сродкаў на здымкі, напэўна, падасца глупствам. Бо навошта выдаткоўваць свае сродкі на незалежны кінематограф, калі мы плацім падаткі (з якіх фінансуецца і культура)? Але мастацтва было і застаецца адной з тых сфер, якой падтрымка грамадства проста неабходная — не толькі фінансавая, але і нематэрыяльная. Калі рэжысёры ствараюць кіно, то мы павінны яго глядзець, каб не размінуцца з чымсьці актуальным і прыгожым. Магчыма, чалавек без кіно і можа выжыць, але кіно без гледача — не.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Запрашэнне да дыялогу

**З аднаго боку — фестываль, з другога — усе мы, патэнцыяльныя гледачы. Галоўная тэма размовы — чалавек і ўсё, што звязана з яго існаваннем — фізічным і духоўным. Але гэта калі коратка вызначыць, пра што з намі хочуць паразмаўляць на Міжнародным фестывалі «Тэарт» сёлета. Фестываль абвясціў міжнародную праграму, у спалучэнні з беларускай часткай, вядомай яшчэ з вясны, яны стварылі ўяўленне пра тое, што сёння хвалюе рэжысёраў у свеце і ў Беларусі: пошук чалавечага, яго праявы ў жыцці.**

Напрыканцы верасня фестываль пачнецца беларускай праграмай. На пачатку кастрычніка ўвагу пераключым на гасцей. Гэта не толькі магчымасць параўнаць узровень тэатральных эксперыментаў: праграма абяцае і эстэтычнае наталенне, і разумовае напружанне. Прыглядзецца да праграмы варта ўжо зараз, квіткі (асабліва на міжнародную частку) разыходзяцца хутка і да восені могуць у касах не затрымацца. Сёлета сярод удзельнікаў — пастаноўкі з 9 краін.

Для пачатку нам прапануюць пашукаць «Карані». Гэта назва спектакля Нацыянальнага харэаграфічнага цэнтра Ла-Рашэлі. Мастацкі кіраўнік і харэограф Кадэр Ату праз сучасны і папулярны хіп-хоп распавядае гісторыі танцораў з іх успамінамі, дэталямі, што захаваліся ў падсвядомасці, мелодыямі, якія ўплывалі на светаадчуванне. Мелодыі і наогул музыка стала асновай для дзеі, на працягу якой кожны ў зале можа атрымаць штуршок да таго, каб шукаць карані фарміравання сваёй асобы.

Сярод асоб, на якіх звяртаеш увагу падчас прагляду афішы, — Оскарас Каршуновас. Гэта вядомае імя не толькі на постсавецкай прасторы, але і ў сусветным тэатральным працэсе. Колькі б яго спектакляў ні паказвалі ў Беларусі, кожны раз гэта падзея. Сам рэжысёр, які мае беларускія карані, пры магчымасці прыязджае ў Беларусь. Але сёлета ў яго пастаноўцы «Апошняя стужка Крэпа» (паводле С. Бекета) Вільнюскага гарадскога тэатра ёсць магчымасць убачыць Юозаса Будрайціса — любімага артыста, вядомага яшчэ па савецкіх фільмах. Ён іграе адзінага героя спектакля-разважання, у якім пажылы чалавек аналізуе, як пражыў жыццё. Спектакль на рускай мове (хоць на фестывалі «Тэарт» складанасцей з перакладам не ўзнікае).

Тым не менш наш глядач больш увагі ўдзяляе расійскім тэатрам: і зразумела, і на слыху, і, як правіла, ёсць пазнавальныя і любімыя артысты. У гэтым не будзе расчаравання. Маскоўскі драматычны тэатр імя А. С. Пушкіна прывязе пастаноўку, прэм'ера якой адбылася ў 2013 годзе. Англійскі рэжысёр Дэклан Донелан, вядомы шэкспіраўскімі пастаноўкамі, паставіў спектакль «Мера за меру». Вечныя шэкспіраўскія пытанні звяртаюць да маралі: закон і беззаконне, чалавечае асуджэнне і суд паводле законаў, расплата за ўчынкі, міласэрнасць. Сцэнічнае афармленне Ніка Ормерада, які звычайна супрацоўнічае з гэтым рэжысёрам. Але прыцягнуць артысты, сярод якіх Аляксандр Фяклістаў.

Шэкспір як драматург вечна жывы. Звяртаюцца да яго тэатры не толькі каб нагадаць чарговую дату, звязаную з гэтым іменем. «Трагедыю Макбета» ў інтэрпрэтацыі Ігара Пізона прадставіць Нацыянальны славенскі тэатр. Што незвычайнага? Дзеянне перанесена ў звычайную кватэру, а гісторыя Макбетатырана набывае іншае гучанне: жорсткасць і гвалт у штодзённым жыцці ў адносінах да блізкіх — ці не тую ж прыроду яна мае?..

Сузор'е артыстаў з Санкт-Пецярбурга (сярод іх пазнавальная Ганна Кавальчук, якую можна будзе ўбачыць іншымі вачамі) занятае ў спектаклі «Горад. Жаніцьба. Гогаль». Рэжысёр-пастаноўшчык Юрый Бутусаў за яго атрымаў тэатральную прэмію «Залаты Сафіт», адзначаны спектакль і за акцёрскі ансамбль. Але тут не варта чакаць толькі Гогаля: нібыта ўся руская класічная літаратура сышлася ў тэатральным палатне (што пацешыць аматараў літаратуры), каб узняць тэму боязі шлюбу. Як гэта было ў часы Пушкіна, Гогаля, і як цяпер успрымаецца адказнасць за лёс іншага ў сямейным жыцці?

Нямецкі тэатр прадстаўлены ў праграме пастаноўкай паводле Хайнера Мюлера «Місія. Успаміны аб адной рэвалюцыі». Гэта сумесны праект Тэатра Гановера і Рурскага тэатральнага фестывалю. Стваральнікі Том Кюнэль і Юрген Кутнер нагадваюць пра галоўныя каштоўнасці французскай рэвалюцыі, якія павінны дайсці да кожнага праз трох эмісараў, што накіроўваюцца ў калоніі і даносяць думкі аб свабодзе рабам. Але ў пэўны момант высвятляецца, што сваю місію яны бачаць па-рознаму. Свабода — тое, што актуальна заўсёды ў тым грамадстве, дзе ёсць адчуванне несправядлівасці (рэвалюцыі ж не ўзнікаюць без падстаў). Ці наогул не ўзнікаюць з-за рознагалоссяў лідараў, нават тады, калі шмат тых, хто прагне свабоды.

Быць свабодным — гэта значыць мець права быць сабой. Праблемы асаблівых людзей узнімае спектакль «Дэменцыя». Пастаноўка Карнэля Мудруца з Венгрыі створана ў форме мюзікла — дзіўна, што такая форма ўзнікла пры размове на такую вельмі складаную і драматычную тэму, як псіхічна хворыя людзі ў грамадстве, іх права на жыццё. Ці частка людзей гатова даць ім права толькі на смерць? Сучаснасць перакрывіла рэчаіснасць і прымусіла жангліраваць нават такім паняццем, як гуманізм. Ці ёсць у нашым свеце права на спачуванне тым, чыя свядомасць схаваная вельмі глыбока (але гэта не значыць, што яе няма)? Ці ёсць наогул што-небудзь чалавечае ў сучасных насельніках свету, дапамагае адчуць музыка.

Музыка для сучаснага тэатра — цудоўная аснова для эксперыментаў. Яна дае магчымасці пагаварыць пра каханне. Да гэтага запросіць тэатр з Лазаны ў спектаклі «Кінг сайз». Рэжысёр Крыстаф Марталер паказвае штодзённае суіснаванне трох розных людзей, кожны з якіх застаецца самотным. Але музыка — гэта і вобраз, і нават аснова для драматургіі: напрыклад, у спектаклі «Шапэн без фартэпіяна» Варшаўскай тэатральнай кампаніі *CENTRALA*. Рэжысёр Міхал Задара і актрыса Барбара Высоцка ўзялі за аснову фартэпіянныя канцэрты польскага генія і на падставе іх стварылі маналог пра адчуванне музыкі. А праз яе — адчуванне жыцця.

Пра тое, што чалавек — тонкая, але і складаная істота, шмат разважаюць і беларускія тэатры. Нездарма шоўкейс «*Belarus Open*» апошнія гады выклікае не меншую цікавасць тэатралаў. Сёлета фестываль «Тэарт» пачнецца 28 верасня прэм'ерай тэатральнага праекта, які аб'яднаў двух асоб з неардынарным поглядам на рэчы: артыстку і рэжысёра Святлану Бень і рэжысёра і драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага. Да іх далучыўся Валерый Воранаў, які стварыў музыку, — яна стане часткай дзеі пад назвай «З жыцця насякомых». На адметныя з'явы ў айчынным тэатральным жыцці мы ўжо звярталі ўвагу (таксама як і адборачная камісія форуму). Але звернемся да беларускай часткі бліжэй да фестывалю.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

*З глядзельнай залы*

# Чароўная Мэры і карусель

Шоу-мюзікл «Мэры Попінс» — на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра! Вось і выдатная магчымасць выцягнуць у тэатр дзяцей, бо казачная аповесць Памелы Трэвэрс — кніга, якую хочацца перачытаць разам з будучым пакаленнем як мага раней. Якія персанажы аповесці апынуцца на сцэне? Колькі дзіўносных гісторый атрымаецца змясціць у двух актах спектакля? О, новая пастаноўка абавязкова здзівіць гледачоў...

Напрыклад, чаму Мэры Попінс (заслужаная артыстка Беларусі Маргарыта Александровіч) — эфектная лэдзі з высокай фрызурай — ніколі не з'яўляецца на сцэне ў фартушку? Адказ гучыць у песні напрыканцы спектакля: Мэры Попінс — не жанчына, не гувернантка, а чараўніца. Героі мюзікла ад пачатку ўспрымаюць яе як абаяльную ды элегантную фею, ды яшчэ паважаюць за міс Дасканаласць, бо Мэры вельмі прываблівае мужчын. А вось чырвоная выява ў форме няправільнай пяціканцовай зоркі на швэдары Майкла Бэнкса так і застаецца без тлумачэння — хіба менш правакацыйны малюнак не падкрэсліў бы падлеткавы ўзрост героя?

Затое Адмірал Бум, міс Кларк, Палісмен, Мармуровы хлопчык сабакі Эдуард і Варфаламей апынуліся дакладна такімі, як уяўляецца падчас чытання кнігі. Атмасфера лонданскага прадмесця створана выдатна: выбраца на спектакль варта, прынамсі, дзеля таго, каб трапіць на Вішнёвы завулак і, вядома, пачуць у жывым выкананні хіты кампазітара Максіма Дунаеўскага.

Найбольшае спачуванне ў спектаклі выклікаюць містэр і місіс Бэнкс. І зусім не таму, што іх сям'я сутыкнулася з невялічкім эканамічным крызісам. Здзіўляе, што не толькі жахлівая нянька міс Эндру, але і Мэры Попінс ставіцца да гаспадароў дома без належнай павагі. Каментарыі Мэры да сямейнай размовы падчас ранішняй аўсянкі падаюцца надта іранічнымі — такой асобе дакладна не месца ў сям'і! Прыезд дэспатычнай і самаўпэўненай нянькі містэра Бэнкса ператварае дзею ў буфанаду, бо непамысная нават у аповесці гераіня апынаецца на сцэне яшчэ больш гратэскным персанажам. Жыхары Вішнёвага завулка на чале з Мэры Попінс аб'ядноўваюцца супраць зла, але менавіта з гэтага моманту становіцца зразумела, у чым праблема спектакля.



Фота з сайта belniva.sh.by.

Камедыя, казка, меладрама, бурлеск — гэта карусель жанраў, якія выклікаюць розную эмацыянальную рэакцыю гледачоў і не вельмі спалучаюцца паміж сабой. Рэжысёр-пастаноўшчык мюзікла (у нашым выпадку заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Міхаіл Кавальчык) мае выключную творчую свабоду. Мюзікл паўстаў як спалучэнне мноства лёгкіх жанраў, і сюжэт спачатку не меў асаблівага значэння ў гэтай забаўляльнай пастаноўцы. Але пераход ад рэалістычнага да неверагоднага ў «Мэры Попінс» адбываецца вельмі хутка. Толькі-толькі скончылася грандыёзная вечарынка-баль у заапарку — і вось ужо трэба дапамагаць звычайным бацькам, якія не могуць паразумецца з дзецьмі; жывы Мармуровы хлопчык, які ледзь не да смерці палохае старога Палісмена, падаецца мілай неспадзяванкай у параўнанні з паводзінамі жудаснай міс Эндру... У адрозненні ад казачнай аповесці, у спектаклі няма адметнай аўтарскай інтанацыі, якая звязвае асобныя дзіўносныя гісторыі. Свята з эфектнымі нумарамі атрымалася, аднак пастаноўцы ўсё ж бракуе ўнутранай цэласнасці.

— Калі прыбраць асобныя моманты, на гэты спектакль прыводзіць дзяцей усё ж такі можна, — зазначыла адна пажылая дама падчас антракту. Сапраўды, асобныя танцавальныя нумары маглі збянтэжыць гледачоў, якія прыйшлі ў тэатр разам з дзецьмі. У спектаклі паказаны як мінімум тры гісторыі кахання, красамоўна праілюстраваныя танцамі (харэограф-пастаноўшчык Ірына Савельева). Лёгкая эротыка ў спектаклях сямейнага фармату сёння звычайная рэч: жадаеце вялікага і светлага — глядзіце дома фільм пра сланоў. З іншага боку, маленькія гледачы хутчэй за ўсё не нададуць увагі дзіўным касцюмам танцораў, дарослыя атрымаюць асалоду, а падлеткі здзівяцца сучаснаму прачытанню твора і знойдуць у спектаклі падобных да сябе герояў.

Крыху зацягнута развітанне з Мэры Попінс усіх жыхароў Вішнёвага завулка, знакамітая песня пра вецер змен, гучныя апладысменты артыстам — і вось ужо цурчыць ціхі фантан побач з тэатрам, змрок ахінае мінскія вуліцы... Непаразуменні і здзіўленні застаюцца ў мінулым, бо ўсмешлівая чараўніца Мэры натхніла ўсіх выдатным настроем. Пагадзіцеся, дзеля гэтага таксама варта наведваць тэатр. Наступны паказ адбудзецца 14 верасня.

**Янка НАТАВЕЦ**

Заканчэнне. Пачатак у № 31.

# На радзіме Вердзі і Даніцэці


Гаэтан Даніцэці.

## ДАНІЦЭЦІ І МІНСК

Што я ведала пра горад Бергама да таго, як туды ўпершыню трапіць?

Гэта назва аэрапорта Мілана. У другой палове 80-х гадоў на тэлеэкранах досыць часта паказвалі жыццярадасную музычную камедыю «Труфальдзіна з Бергама», экранізацыю п'есы Карла Гальдоні «Слуга двух паноў». У галоўных ролях — Канстанцін Райкін і Наталля Гундарава. Гэтымі фактамі веды пра горад пачыналіся і заканчваліся. Дарэчы, калі ў назве фільма вымаўляецца Бергама, з націскам на другім складзе, дык з пункту гледжання тапанімікі і геаграфіі больш дакладна, калі націск усё ж на першым: Бергама.

Гэта радзіма Гаэтана Даніцэці, аднаго з класікаў італьянскай музыкі. Тут ён нарадзіўся, тут пахаваны ў саборы Санта Марыя Маджорэ. У старой частцы горада існуе яго музей, а на фасадзе опернага тэатра пазначана яго імя.

Культуры розных, нават тэрытарыяльна далёкіх, краін насамрэч трывала звязаныя. Найперш асобамі выдатных творцаў. Некалі рэжысёр Юрый Аляксандраў паставіў на сцэне нашага Опернага яркі, камедыйна-зіхатлівы спектакль «Дон Паскуале». Музыка Даніцэці (напісаная ім усяго за 8 дзён), у галоўных партыях — салісты оперы Віктар Скорабагатаў, Віктар Чарнабаеў, Людміла Златава. У тым жа тэатры амаль дзесяць гадоў ідзе камічная опера «Рыта, або Пірацкі трохкутнік». Прычым цяпер паказваецца ўжо другая версія. Рэжысёр Ганна Маторная дасціпна і па-сучаснаму ўвасобіла ў Опернай студыі нашай Акадэміі музыкі «Любоўны напой», зноў-такі партытуру Даніцэці. У інтэрпрэтацыі яе ж у Музычным тэатры ішла камічная опера «Званочак» спадара Гаэтана. Галоўны рэжысёр нашага Опернага Міхаіл Панджавідзэ некалькі сезонаў таму ўвасобіў «Лючыю дзі Ламермур» на сцэне Самарскай оперы, з якой супрацоўнічае.

Так што спадчына Даніцэці сапраўды неўміручая, актуальная і запатрабаваная. Ну, а фантастычнай прыгажосці раманс Немарына з «Любоўнага напою» ведае, напэўна, увесь музычны свет.

Уражвае прадукцыйнасць працы кампазітара, які за 26 гадоў творчай дзейнасці напісаў 64 оперы. Некаторыя тлумачэнні знайшла ў ліставанні спадара Гаэтана. «Ці ведаеш мой дэвіз? Хутка! Быць можа, гэта і не вартае ўхвалы, але тое, што я зрабіў добра, заўсёды было зроблена хутка», — так ён пісаў Джакама Сакера, аднаму са сваіх лібрэтыстаў. Спачатку падобны тэмп сачынення музыкі быў вымушаны, бо Даніцэці паходзіў з беднай сям'і (яго бацька быў вартаўніком, а маці — ткачыхай), але пазней, калі кампазітар атрымаў фінансавую незалежнасць і прызнанне, застаўся верным такому метаду працы. Неверагоднае нервовае напружанне, чарада трагічных падзей у сям'і (смерць бацькоў, трох сыноў і жонкі) паўплывала на тое, што кампазітар пражыў усяго 51 год.

*Невыпадкова кампазітары розных краін напісалі столькі твораў, якія ўвасабляюць рэлігійную тэматыку. Музыка нарадзілася ў храме. І візуальна, і сэнсава, акустычна яго прастора ідэальная для ўспрымання падобных сачыненняў.*

Даніцэці лічыцца майстрам мастацтва бельканта, прадстаўніком рамантычнай опернай школы, заснавальнікам якой быў Расіні. Лепшыя оперы спадара Гаэтана вызначаюцца майстэрствам драматургічнай кампазіцыі, зіхатлівай меладычнай віртуознасцю, жыццярадаснасцю і дасціпнасцю, паэтычным лірызмам. У той жа час творчасць самога Даніцэці ў найбольшай ступені паўплывала на Вердзі. І гэтым таксама ён заслугоўвае нашу ўвагу і павагу.


Бергама, Стары горад. Капэла Калеоне.

## КІЛАМЕТРЫ ПА БРУКАВАНЦЫ

Я заўжды лічыла: каб зразумець творцу, трэба апынуцца на яго радзіме, пахадзіць па сцежках, на якіх ён мог крочыць у юнацтве або ў сталыя гады, убачыць архітэктуру, якой мог захапляцца. Бергама — горад невялікі: больш за 100 тысяч чалавек. Каб агледзець яго, хопіць і аднаго дня. У маім распараджэнні — толькі вечар і раніца.

Таму адразу выправілася ў Стары горад, які знаходзіцца на вышыні 400 метраў над узроўнем мора. Спачатку доўга ўздымаешся па крутых сярэднявечных вулачках. Усюды брукаванка. Прычым камяні не плоскія, якія трапляліся раней (напрыклад, у Версалі), па тых ісці лягчэй. У Бергама яны невялічкія і закругленыя. Таму, прайшоўшы 3—4 кіламетры (спачатку ўздоўж магутных сцен, а потым столькі ж, калі ў цёплых летніх прыцемках спускалася ўніз), думала так, як адна з гераінь рускай класікі: як шкада, што людзі не лётаюць!

*Даніцэці лічыцца майстрам мастацтва бельканта, прадстаўніком рамантычнай опернай школы, заснавальнікам якой быў Расіні. Лепшыя оперы спадара Гаэтана вызначаюцца майстэрствам драматургічнай кампазіцыі, зіхатлівай меладычнай віртуознасцю, жыццярадаснасцю і дасціпнасцю, паэтычным лірызмам.*


Бергама, уваход у Стары горад.

Сярэднявечны горад (Бергама ўзнік у перадгор'ях Альп) выглядае як крэпасць, яго ахоўваюць магутныя высозныя сцены. Агульная даўжыня — больш за 6 кіламетраў. Каб трапіць у горад, ты павінен прайсці амаль палову гэтага шляху.

Найперш выправілася шукаць музей Даніцэці. Нібыта і карта ў руках, і ўказальнікі ёсць, але ў лабірынце сярэднявечных вулачак лёгка заблытацца. Правільны кірунак падказаў трэці ці чацвёрты сустрэчны. Вядома, у восем гадзін вечара музей быў даўно закрыты. Але яго агульны выгляд, «карцінка» засталася ў памяці назаўсёды. Унутраны дворык з балконамі. Велізарныя шкляныя дзверы — побач са старадаўняй цаглянай кладкай. Вузкая, крыху змрочная вуліца, паміж дзвюма глухімі сценамі вышынёй метры чатыры, не менш. Агульны настрой мясціны супярэчыў зіхатлівай і радаснай атмасферы твораў Даніцэці.

Цэнтр Старога горада падаўся больш вясёлым. Мо дзякуючы вірліваму натоўпу падарожнікаў, мо неверагоднай прыгажосці будынкаў на Старой плошчы. На ёй і ратуша XII стагоддзя, самая даўняя муніцыпальная ўстанова Італіі. І вытанчаныя, ажурныя каменныя карункі фасада капэлы Калеоне. І фантастычнай прыгажосці храм Санта Марыя Маджорэ. Дарэчы, у адным з яго прыдзелаў і пахаваны Даніцэці. Зазірнуўшы ў храм, была ўражана неверагодным багаццем аздаблення. Велізарныя габелены і жывапісныя палотны, пазалота і роспісы на столі, ляпніна, скульптуры... Раней здавалася, што столькі відаў мастацтва немагчыма спалучыць у адной прасторы, — будзе залішне! Але спалучыць можна ўсё — пытанне толькі ў гусце.

…У храме збіралася публіка, няспешна расаджвалася па лаўках. Магчыма, хутка пачнецца вячэрняя служба. Але неспадзявана трапіла на канцэрт харавой музыкі. Слухала двухгадзінны праект з удзелам хору і салістаў (ім акампанавалі арганіст і піяніст), прычым ядналіся сачыненні аўтараў розных эпох: ад XVIII стагоддзя да сучасных і жывых. Невыпадкова кампазітары розных краін напісалі столькі твораў, якія ўвасабляюць рэлігійную тэматыку. Музыка нарадзілася ў храме. І візуальна, і сэнсава, акустычна яго прастора ідэальная для ўспрымання падобных сачыненняў.

***

Вандроўкі ў Парму і Бергама дапамаглі мне зразумець, чаму опернае мастацтва так расквітнела менавіта ў Італіі, яго здабыткі патрэбны ўсяму свету не першае стагоддзе. Прычын шмат. Цёплы, а часам і гарачы міжземнаморскі клімат, відаць, правакуе эмацыянальную пачуццёвасць, душэўную расхінутасць, цёплыя, часам гарачыя пачуцці — без іх оперы не абысціся. Дадамо спеўнасць мовы, якая, здаецца, для вакалу спецыяльна і прызначана. Нават не разумеючы сэнсу слоў, слухаў бы і слухаў! Звычайныя, будзённыя з'явы — і тыя аказваюцца музычнымі тэрмінамі. Фермата — прыпынак, піяна — паверх. Таленты і геніі натхняліся неверагоднай прыгажосцю архітэктуры, насычанасцю мастацкай прасторы не проста творамі, а шэдэўрамі. Духам даўніны, багатай гісторыяй, скарбамі, адлюстраванымі ў храмах і музеях. Іх жывілі запатрабаванасць опернага жанру грамадствам, трывалая музычная традыцыі, якія ўсталёўваліся стагоддзямі.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ,**
**фота аўтара.**

# Пластычная свабода

## як творчая адметнасць Алега Ладзісава



Адзін з самых «жывых» раёнаў Мінска, Верхні горад, спалучае ў сабе шмат цікавых прапаноў. Тут адбываюцца музычныя фестывалі, кулінарныя фэсты, штогод адкрываюцца новыя, тэматычныя, кафэ і рэстараны. Атмасфера на гэтым кавалачку зямлі прыемна цёплая, утульная. Сінтэз мастацкага і забаўляльнага сапраўды ўдалы. Напэўна, прысутнасць мастацкай эстэтыкі і прываблівае мінчан да Верхняга горада. Галерэі, якія размешчаны тут, адрозніваюцца ад іншых гарадскіх выставачных прастор якасным праектаваннем, прадуманасцю інтэр'ера і святла ў памяшканнях. Менавіта ў іх заўжды і ладзяцца арыгінальныя, канцэптуальныя выставачныя праекты. Таму, калі ў найбліжэйшы час раптам завітаеце ў Верхні горад, не палануйцеся, наведайце ў арт-гасцёўні «Высокае месца» выстаўку мастака-абстракцыяніста Алега Ладзісава «Ад плюса да мінуса. І назад». Добры летні настрой вам будзе забяспечаны!

Алег Ладзісаў з пакалення тых мастакоў, якія лічаць, што без фантазіі і эксперыментальнага падыходу мастацтва існаваць не можа. Ён прытрымліваецца пазіцыі: фантазіраваць не аднаму, а з гледачом. У выніку атрымліваецца дыялог, які не дае мастацтву згаснуць, стаць стэрэатыпным альбо бессэнсоўным. Выставачны праект «Ад плюса да мінуса. І назад» — перажыванне аўтара, звязанае з тугой па леце. У хуткім часе яно скончыцца, але ж яркія адценні выстаўкі не дадуць забыцца пра шчаслівыя, захапляльныя моманты любімага часу.

Абстрактныя палотны мастака пазбаўлены тэматычных межаў. Яны больш накіраваны на супрацьпастаўленне малога і вялікага, каляровага і чорна-белага, эмацыянальнага і спакойнага. Такі прыём накіроўвае чалавека на інтрыгу, разгадванне загадак аўтара, якія нават знайсці не так і лёгка. Тым больш абстрактны жывапіс — заўсёды нагода для асэнсавання працэсаў, якія аўтар лічыць актуальнымі. Алег Ладзісаў прываблівае рамантычнымі элементамі — яны робяць канцэпцыю твораў найбольш цэласнай, скончанай. Творца гуляе з фарбамі, часам мала звяртаючы ўвагу на сюжэт і жанравыя асаблівасці. Больш выкарыстоўвае гарманічнае сумяшчэнне ліній і колераў. Па словах майстра, межы і фарматы прадугледжваюць простасць, звычайнасць твора, а пластычная свабода дае яму адметнасць. У жывапісе аўтар практычна не звяртаецца да цёмных адценняў, любіць яркія і светлыя фарбы. Калі і назіраюцца на палотнах цёмна-сінія альбо чорныя плямы, то гэта хутчэй мастацкі прыём — падкрэсліць светлы фон як аснову сюжэта.

Сваім мастацкім творам аўтар не дае назву. Тут таксама прасочваюцца элементы гульні: глядач павінен адчуць карціну так, каб назва нечакана з'явілася ў яго думках. Менавіта гэтым аўтар і арыгінальны: стварае не твор дзеля твора — ставіць жывапісныя задачы і імкнецца ідэальна іх выканаць.

У сферы абстрактнага жывапісу Алег Ладзісаў працуе практычна дзесяць гадоў. За гэты час мастак навучыўся ствараць на палотнах асаблівую, індывідуальную атмасферу, якая і з'яўляецца візітнай карткай аўтара. Майстру цікава шукаць новыя сродкі для атрымання эфекту дынамічнасці, цікава захапляць тэмай, якая не адразу кідаецца ў вочы, а становіцца зразумелай пасля асабістых разважанняў. Па словах аўтара, многія работы — праекцыя на ўспаміны юнацтва, калі ўражанні ад жыцця былі больш насычанымі, эмацыянальнымі, а погляд у прастору лёгкі і свабодны.

Выстаўка «Ад плюса да мінуса. І назад» характарызуе асобу мастака як чалавека, які не губляе сувязь з родным, не губляе патрэбу атрымліваць асалоду ад жыцця, навакольных працэсаў і людзей, здольных ацаніць і зразумець імкненне заўсёды быць на плаву. Дарэчы, экспазіцыя твораў у арт-гасцёўні суправаджаецца паказам кліпа «Лінія жыцця» музычнага гурта «*A-ha*», які таксама можна назваць сімвалам рамантыкі, натхнення.

Назва праекта «Ад плюса да мінуса. І назад» мае на ўвазе кругаварот жыцця: пераход ад цёплага да пахмурнага, халоднага, а потым зноў да любімага летняга часу. Выстаўку наведаць варта хоць бы для таго, каб атрымаць сваю порцыю сонечнага лета.

**Вікторыя АСКЕРА**



## Культурны ракурс



Гісторыя — цікавая штука. Ну хто б мог падумаць, што маленькая вёска Крэва ўбачыць яркіх гістарычных персанажаў — вялікіх князёў і каралёў, што менавіта ў ёй адбудуцца падзеі, ад якіх залежаў лёс паловы Еўропы? І калі перафразаваць вядомую прымаўку, то лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў прачытаць.

Крэўскі замак — адзін з найстарэйшых у Беларусі — створаны ў пачатку XIV стагоддзя. Акрамя таго, ён быў першым замкам, цалкам пабудаваным з каменя вялікім князем літоўскім Гедымінам. А ў 1382 годзе тут забілі вялікага князя Кейстута. Кнігі па гісторыі не раз вярталі нас да крывавай расправы князя Ягайлы са сваім дзядзькам, князем Кейстутам.

У 1385 годзе паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім была падпісана знакамітая Крэўская унія, пасля якой Ягайла прыняў каталіцтва, а разам з ім і хрысціянскае імя Уладзіслаў.

Замак ахутаны мноствам легенд — ад сакрэтных тунэляў да прывідаў. Адна з самых вядомых распавядае, што вялікі князь Вітаўт ратаваўся з замка, пераапрануўшыся ў жаночае адзенне. І тут адно з двух: альбо князь сапраўды меў жаночы целасклад, альбо прыслужніца, якая аддала яму адзенне і засталася ў турме, была мужчынскага целаскладу.

Падчас Першай сусветнай вайны замак моцна разбурылі, сёння ад былога гмаха засталіся толькі руіны сцен і некаторыя часткі вежаў. Але нават у разбураным выглядзе замак сведчыць, наколькі велічным ён быў у свае лепшыя часы.

**Марыя ШЧЫПАНАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічваць не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
11.08.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1633.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3019

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686